

Мінск у Гайнаўцы→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Новае выданне «Нівы»→8


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl


№ 08 (3119) Год LXI Беласток, 21 лютага 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



■ Іаанна Троц і Тамаш Таранта

“ Гэта не проста трагедыя нейкай колькасці праваслаўных, беларускіх сем'яў нявінных ахвяр, але гісторыя ўсіх беларусаў Падляшша. Гэта датычыцца ўсіх нас, і мы ўсе павінны аб гэтым страшным злачынстве памятаць…

# Попел і памяць

**«Попел і памяць. 1946» — пад такой назвай на вялікай сцэне Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку адбылося перфарматыўнае чытанне, прысвечанае памяці жыхароў вёсак Бельскага павета, забітых атрадам Рамуальд Райса «Бурага» — аднаго з так званых праклятых жаўнераў — на зломе студзеня і лютага 1946 года. Мерапрыемства было падрыхтавана тэатрам «Чрэво»: Іааннай Троц і Тамашам Тарантам. У амаль абсалютнай цішыні чытанні слухала больш за сто гледачоў, якія пасля чытання прынялі ўдзел у размове з удзелам беларускіх гісторыкаў Славаміра Іванюка і прафесара Алега Латышонка.**

Нагадаем, што сёлета мінула 70 гадоў з дня пацыфікацыі беларускіх вёсак узброеным атрадам Нацыянальнага вайсковага задзіночання пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса «Бурага». 12 лютага са сцэны беластоцкага драмтэатра акцёры прачыталі фрагменты інфармацыі аб канчатковых выніках расследавання, праведзенага Інстытутам нацыянальнай памяці ў справе забойства 79 жыхароў Бельскага павета, учыненага ў перыяд з 29 студзеня па 2 лютага 1946 года, і ўспамінаў жыхароў пацыфікаваных вёсак. Хвалюючыя расказы відавочцаў гэтых трагічных падзей, якія выкарыстоўваліся ў час чытання, былі запісаны ў пачатку 1990-х гадоў журналістамі «Нівы»: Янам Максімюком, Міколам Ваўранюком і Ганнай Кандрацюк-Свярубскай. Быў таксама зачытаны фрагмент успамінаў Мікалая Кучынскага са Шпакоў, запісаны ў кнізе «Ой даўно, даўно», які выкарыстоўваўся раней у вядомым падляшскай аўдыторыі спектаклі пад аднайменнай назвай, які ставіла беластоцкая моладзь, вывучаючая беларускую мову, і падрыхтаваным пад кіраўніцтвам Аліны Ваўранюк. Успаміны акцёры прыводзілі на гаворцы, змешанай для прэзентацыі з некалькіх дыялектаў, якімі гаварылі героі. Незадоўга да прэм'ернага, амаль пагадзіннага чытання **Іаанна Троц** прызналася «Ніве»:

— Пытанне пацыфікацыі вёсак да гэтага часу жывое ў нашым асяроддзі, функцыянуе як незагойная рана. Я хацела зрабіць чытанне, каб трагічныя падзеі нагадаць у нейкі ўпарадкаваны спосаб, і каб з'явілася магчымасць для публічнага абмеркавання гэтай тэмы. Чытанне пабудавана такім чынам, каб было як найбольш фактаў без якіх-небудзь каментарыяў і ацэнак. Пабудавана яно на кантрасце сухіх, халодных афіцыйных фактаў і ўспамінаў сучасных сведак гісторыі, таго, што перажылі тыя людзі і што гэта вельмі суб'ектыўнае і звязане з моцнымі эмоцыямі. Я хацела тэму пацыфікацыі ўзяць на «варштат», але не ведала, як гэта зрабіць, каб гэта было годным. Мне здаецца, што гэта яшчэ свежая тэма, каб зрабіць з яе спектакль у поўным сэнсе гэтага слова, таму што спектакль гэта асабістая інтэрпрэтацыя, скрывае каментарый да расказанай гісторыі. Перфарматыўнае чытанне ўяўляе сабой простую форму, самі словы перадаюць шмат эмоцый, без лішніх тэатральных метафар. Я ўзяла гэтую тэму таму, што я ідэнтыфікуюся з гісторыяй пацярпелых людзей. Гэта не проста трагедыя нейкай колькасці праваслаўных, беларускіх сем'яў нявінных ахвяр, але гісторыя ўсіх беларусаў Падляшша. Гэта датычыцца ўсіх нас, і мы ўсе павінны аб гэтым страшным злачынстве памятаць.

Пасля прэзентацыі, падчас дыскусіі (вёў яе журналіст Мікола Ваўранюк) Славамір Іванюк прыпомніў як «Буры» з Віленшчыны трапіў яшчэ ў 1944 г. на Беласточчыну, як звязаўся з Нацыянальным вайсковым звязам — палітычнай арганізацыяй, звязанай з Нацыянальнай дэмакратыяй, самай крайняй нацыяналістычнай палітычнай групоўкай — і як ён пачаў ствараць свой атрад «Pogotowie Akcji Specjalnej» для «падтрымання парадку» на тэрыторыі Беласточчыны.

**Прафесар Латышонак** сказаў:

— «Буры» меў загад пацыфікаваць вёскі, паколькі яго камандзір «Котвіч» лічыў, што насельніцтва — як ён называў «рускае» — гэтай тэрыторыі (без называння вёсак і людзей) падтрымлівае будаўніцтва структур камуністычнай дзяржавы. «Буры» зрабіў пацыфікацыю паводле свайго меркавання. Я не магу адчуць яго намераў, чаму ён так жорстка зрабіў, і верагодна, гэта застанецца для нас загадкай.

**Славамір Іванюк** спаслаўся на кнігу Ежы Кулака «Rozstrzelany oddział», у якой дакладна апісана большасць членаў атрада «Бурага» па імені і прозвішчы:

— Большасць з іх паходзіла з Беласточчыны, з Высока-Мазавецкага, цяперашняга Ломжынскага, Замбраўскага паветаў. Яны часта былі суседзямі, раней удзельнічалі ў іншых рэйдах, напрыклад, так званых правіянцкіх на беларускія, праваслаўныя вёскі. Толькі частка была з віленскага перыяду «Бурага», і ў асноўным складала кіраўніцтва атрада.

**Прафесар Латышонак**:

— Рэйды «Бурага», аб якім было чытанне, гэта лінза, у якой канцэнтруецца тагачасная сітуацыя. Дробныя рэйды выконвалі дробныя групы на тэрыторыі ўсёй Беласточчыны ад Сакольшчыны да Буга. Так загінула шмат людзей, а больш за дзесяць тысяч былі вымушаны бегчы ў Савецкі Саюз. Гэта не быў добраахвотны выезд па дамове аб рэпатрыяцыі.

**Славамір Іванюк**:

— ІНП, калі заняўся вазакамі і пяццю спаленымі вёскамі, павінен заняцца таксама і іншымі падобнымі тагачаснымі падзеямі. Мы ўсё яшчэ чакаем, каб ІНП заняўся прысудам датычным «Рэкіна» і «Бурага» ад 1995 г., асабліва цяпер, калі зноў падымаюцца галасы, што аб «Бурым» нельга гаварыць дрэнна, таму што ён рашэннем суда РП рэабілітаваны. Трэба памятаць, што трагічныя падзеі ад 29 студзеня па 2 лютага 1946 года ў рашэнні пракурора ІНП ацэнены адназначна: гэта не была дзейнасць у карысць суверэнітэту РП.

**Прафесар Латышонак**:

— Трэба падкрэсліць: гэта не была рэабілітацыя, толькі адмена судовага прысуду над «Бурым». Трэба правесці новы працэс. Павінна гэтым заняцца нейкая дзяржаўная ўстанова, і, вядома, не прыватныя асобы.

**Славамір Іванюк**:

— ІНП мае пракурораў для такіх мэт.

**Прафесар Латышонак**:

— Я ў дэпрэсіі, таму што дажыў такіх часоў, а ніколі не спадзяваўся таго, што «Буры» для каго-небудзь будзе героем. Тыя, для каго ён герой, не зацікаўленыя ў фактах. Культ «праклятых салдат» нарадзіўся проста на нашых вачах і застаўся ўжо барацьбу палякаў за незалежнасць падчас Другой сусветнай вайны з Германіяй. Для той часткі маладога пакалення, якое цікавіцца гісторыяй, у адносінах да таго часу існуюць ужо толькі яны. Яны вераць, што гэта чыстыя рыцары, а тыя крэсавыя — неасрэчны аўтарытэт.

**Славамір Іванюк**:

— Я не ведаю, чаму ІНП не можа заняцца сапраўднымі падзеямі, гэтым бандытызмам, які прыпісваў сабе толькі арла ў кароне на шапцы або прысабечыў назву АК. Такіх самазваных мясцовых груп пасля вайны ўзнікла шмат. Гэта высветліла б шматлікія непаразуменні.

У ходзе абмеркавання былы дэпутат парламента **Яўген Чыквін**, галоўны рэдактар штомесячніка «**Przegląd Prawosławny**» сярод іншага выказаў перакананне, што ў справе пацыфікацыі беларускіх вёсак у пасляваенны перыяд павінны ўзяць голас прадстаўнікі Царквы — праваслаўнай і асабліва каталіцкай на Беласточчыне.

**Яраслаў Іванюк** з Радыё Беласток рытарычна пытаўся:

— Чаму ніхто, нават дэпутаты з нашага беларускага асяроддзя, не заняўся гэтымі людзьмі (нашчадкамі закатаваных атрадам «Бурага» — М. Х.), не дапамог аб'яднаць у адно, каб іх намаганні за кампенсацыю павесці ў арганізаваным парадку?

Пасля ледзь не гадзіннага чытання амаль усе слухачы засталіся на дэбатах. На тварах як старэйшых, так і маладзейшых асоб можна было ўбачыць хваляванне. **Андрэй Сцепанюк**, дырэктар Бельскага белліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім сказаў:

— Мне здавалася, што я прачытаў ужо шмат на гэтую тэму. Аднак я ўражаны. Менавіта тым, як было гэта паказана парай двух маладых акцёраў, як яны паказалі кавалак праўды.

Чытанне «Попел і памяць. 1946» будзе паўторана ў найбліжэйшы час у Бельскім доме культуры (19 лютага) і Цэнтры праваслаўнай культуры ў Варшаве (21 лютага).

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА





# Развагі былога дыверсанта

Прагладаючы загалоўкі сённяшніх інфармацыйных сайтаў пра вайсковыя вучэнні расійскай арміі па мажлівым прымяненні ядзернай зброі, прыйшла мне на памяць адна даўняя размова. Адбылася яна на тэрыторыі тагачаснай Чэхаславакіі ў адной з сакрэтных вайсковых частак СССР. У гэтай баявой адзінцы мне давялося неяк паслужыць.

— Мы жывём у век ядзернай зброі, — пачаў сваю лекцыю зампаліт. — Таму вайсковая частка дзе мы служым, ёсць адным з самых галоўных падраздзяленняў не толькі Цэнтральнай групы войск СССР у Еўропе, але і ва ўсёй сістэме ўзброеных сіл. Бо мы — дыверсанты, якія ў выпадку вайны будуць выяўляць і знішчаць не толькі розныя стратэгічныя аб'екты ворага, але і ракеты сярэдняй дальнасці з ядзернымі боезарадамі таксама.

— Можна пытанне? — не без іроніі ў голасе падняў руку адзін надта саркастычны яфрэйтар. — Пра тое як знішчаць ядзерны боезарад нас ужо добра навучылі на практычных занятках. Толькі вось чамусьці забыліся сказаць, як нам пасля гэтага выжыць. Усе мы ведаем, што ахова ракетных комплексаў такая, што як ты толькі сябе выявіш, то можаш адразу лезці ў труну. А калі ты ракету з ядзерным боезарадам знішчыш, узарваўшы яе тратылавым боезарадам павышанай магутнасці, то спадзявацца, што застанешся незаўважаным неяк не прыходзіцца. Але і не гэта самае страшнае. Калі мы ўсё ж знішчым ядзерную боегалоўку, то рассыпаны ўран стварае такі радыяцыйны фон навокал, што лепш хай цябе прыстрэліць ахова, чым бачыць як з цябе вывальваюцца самі па сабе ўнутраныя органы, а таксама валасы, кіпцюры, вушы, скура і ўсё астатняе ў адвольным парадку, пры гэтым аніяк не рэагуючы на твой істэрычны пратэст супраць гэтага працэсу.

Зампаліт усміхнуўся.

— Я бачу, што ў нас інтэлектуалы завяліся, — парыраваў ён. — Адкуль яны толькі бяруцца ў нашай вайсковай сістэме? Недапрацоўка! Ну, але калі вы такі разумны, то павінны добра сабе ўсведамляць, што да ядзернай вайны ніколі не дойдзе. Ядзерная вайна немажлівая ў прынцыпе. Яна магла б быць толькі тады, калі б ядзерную зброю меў толькі адзін бок. А калі яго маюць абодва бакі, то кожны баіца ядзернай помсты. Таму ядзерная зброя ёсць элементам стрымлівання не толькі ядзернай, але і ўсялякай вайны. І наяўнасць нашых дыверсійных груп па знішчэнню такой зброі ёсць проста гарантам, што вораг не адважыцца яе нават падцягваць да лініі фронту. Таму не хвалюйцеся за свой лёс. І запомніце раз і назаўсёды — ядзернай вайны не будзе ніколі. Бо чалавецтва яшчэ не здурнела канчаткова.

І сапраўды. Тады ядзернай вайны не адбылося, бо кожны зампаліт, генерал, жаўнер, просты грамадзянін і кіраўнік краіны саветаў думалі менавіта так. І не толькі ў Саюзе. Так думалі і генерал Пентагона, і жаўнер НАТА, і прэзідэнт ЗША і грамадзянін еўрапейскай краіны. І аніякага больш стрымліваючага фактару не трэба было. Мысленне людзей, іх успрыманне свету і ёсць галоўным фактарам тых ці іншых працэсаў, якія адбываюцца ў свеце.

А што мы бачым зараз?! Галоўны вядучы расійскага дзяржаўнага тэлебачання Кісялёў з блакітных экранаў тэлевізараў завярае ўсіх рускамоўных гледачоў на свеце, што Расія можаператварыць Амерыку ў ядзерны попел. Дэпутат дзяржаўнай думы Расіі Жырыноўскі палохае ядзернай зброяй увесь свет. Кіраўнік Расійскай Федэрацыі і яе галоўнакамандуючы аддае загад на правядзенне вайсковых вучэнняў па прымяненню ядзернай зброі... І нават звычайныя грамадзяне Расіі, пад уплывам гэтай прапаганды, пачалі дапускаць мажлівасць ядзернай вайны...

Ну, а калі такое дапускаецца ў прынцыпе, то верагоднасць таго, што гэта можа здарыцца, узрастае ў разы. Таму абавязкова трэба зноў усім ім нагадваць словы таго саркастычнага яфрэйтара, які сцвярджаў, што рассыпаны ўран стварае такі радыяцыйны фон навокал, што лепш хай цябе прыстрэліць ахова, чым бачыць як з цябе вывальваюцца самі па сабе ўнутраныя органы, а таксама валасы, кіпцюры, вушы, скура і ўсё астатняе ў адвольным парадку, пры гэтым аніяк не рэагуючы на твой істэрычны пратэст супраць гэтага працэсу.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Пастулат Стэфана

Перадаю за «Выбарчай газетай» абтрапаную з пылу інфармацыю: у Беларусі адкрылі дзяржаўны завод... самагонкі. Яе масавая вытворчасць і продаж мае зацікавіць не толькі беларускіх, але і замежных аматараў высакаградусных напояў. Па меншай меры, надзею на тое выказваюць дырэктары гарэлачных заводаў, што застаюцца на дзяржаўнай зарплаце. Ліцэнзію на вытворчасць гэтага напою атрымала Слонімская фабрыка він, размяшчаючы яе вытворчасць у аднаўленай з нуля самагонаварні ў вёсцы Айцова, у 7 км ад польскай мяжы. Кажуць, у продаж ужо з'явіліся першыя прадукты: «Першачок традыцыйны» на 42 градусы і «Першачок люты» на 47. Цікава, якія яны на смак? Сумняваюся, што захаваюць яны свае першабытныя каштоўнасці, як тая самагонка, якую гоняць з душой на плячы, што дадае асаблівага характару нелегальным дыстылятам.

Для маладых людзей адурманеных абыякім півішчам, важны напамін: «бімбэр» ці самагонка інакш «księżycówka» або альтэрнатыўна «krzakówka», гэта высакаградусны алкагольны напой, які традыцыйна вырабляюць у хатніх умовах, як правіла, са збожжа, бульбы або буракоў, шляхам перагонкі. Асабіста я пакаштаваў самагонкі з бручкі — агідная! Аб «цукроўцы» лепш не згадваць. Але сябры з Украіны прыслалі мне аднойчы радасную бутэлечку самагонкі з гарбуза — поўнай сонечнага смаку. Расейцы, спецыялісты па гэтай тэме кажуць, што найгоршая самагонка лепшая ад буйнапрамысловай гарэлкі. Як прызналася Людміла Петрычэнка, жыхарка Екацярынбурга — што паўтараю за «Фактамі» — пасля яе спажыцця «галава не баліць і няма якіх-небудзь негатыўных наступстваў».

Аднак за дэгустацыйнае супрацьстаянне з жыхаркай Екацярынбурга, якое эмпірычна паказала б перавагу нашага дыстыляту над расійскім, аўтар гэтых слоў за нішто не ўзяўся б. У прынцыпе, маючы на ўвазе печань, якая стала далікатнай ад пушчанскіх зёлак, і здаровы лад жыцця. Але таксама з-за несправядлівага адрознення ў аб'ёме расійскага і пушчанскага łba-чэрапа. Для незнаёмых з гэтай канцэпцыяй тлумачу, што гэта адзінка цвярозасці, не ахопленая міжнароднай класіфікацыяй вымярэння, падобна як у цяперашні час забытыя «лут», «сажань» ці «карэц». Магутнасць галавы традыцыйна вымяраецца колькасцю выпітай гарэлкі. Пры ўсёй павазе да Людмілы з Екацярынбурга, але «łeb musi mieć ona jak sklep», значыць, як крама. Расійская крама — вялікая і пустая ад часу ўвядзення эмбарга на прадукты харчавання з краін Еўрапейскага Саюза. І чаго мерацца з ім, скажам, такому пушчанскаму лобіку, не большаму ад аб'язной крамкі?!.

Хто не ведае, хай даведаецца, што ездзяць такія па падляшскіх вёсках: з хлебам, малаком, вяндлінамі, пільна чаканыя нямоглымі пажылымі людзьмі. Калі іх не стане, тыя, верагодна, кусаць будуць камяні. А прападуць, таму што гэта слабенькі інтарэс для гандляроў. Аж дзіў бярэ, што дзяржава, асабліва цяперашняя, перанятая вымарачным правам Яраславам Качынскім, які дэкларуе вялікі клопат пра кожнага грамадзяніна паасобку, нават не прамармыча аб падатковых ільготах для перасоўнага гандлю. Аб старэчах з падляшскіх вёсак ніхто не падумае і ўжо няважна ці будзе гэта дзяржава, урад, ПіС ці Яраслаў Качынскі.

Адно можна сказаць напэўна, што прысабечанне самагонаварэння дзяржавай з'яўляецца не толькі беларускай асаблівасцю. Раней узяліся за гэта ў Расіі. Выраб алкаголю для асабістага карыстання з'яўляецца законным там на працягу больш дзясятка гадоў. Новы закон, які нядаўна ўступіў у сілу, дазволіць таксама на яго продаж, вядома, пры ўмове перадачы значнай акцызнай даніны дзяржаве. Такім чынам — адпаведна прыказцы — і Пану Богу свечка, і д'яблу агарак — і самагоншчык гарэлкі законна пап'е, і нецвярозы махне рукой на дзяржаву, якая за яго акцызную смятанку зліжа. Таму што, бачыце, не для сябе зліжа, а для сваіх грамадзян. І гэтую думку кірую да ўладных: легалізуйце самагонаварэнне, каб было чым расплаціцца за вашы выбарчыя абяцанні. А можа штосьці капне ў выглядзе льготы і аб'язным крамкам? Мне, напрыклад, да стацыянарнай крамы трэба ісці 7 кіламетраў лесам. Але для мяне гэта не праблема. У горшай сітуацыі мой сусед Стэфан, якія ходзіць на мыліцах.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Новы пасол у Мінску

Новым паслом Польшчы ў Беларусі будзе эканаміст і дыпламат Конрад Паўлік (1976 года нараджэння), падчас праўлення ГП-ПСЛ намеснік міністра замежных спраў, былы дырэктар усходняга дэпартамента Міністэрства замежных спраў (з 2014 года) і прадстаўнік міністра замежных спраў па Усходнім партнёрстве. У 2006-2007 гадах працаваў у Канцылярыі прэзідэнта Леха Качынскага, адкуль перайшоў у МЗС. Атрымаў ён агрэман (згоду на прыняцце новага пасла краінай, у якой мае знаходзіцца) маланкава — на працягу аднаго дня пасля адпраўкі яго ўладам у Мінску. Міністр МЗС Вітальд Вашчыкоўскі, прадстаўляючы яго кандыдатуру 10 лютага дэпутатам сеймавай камісіі па замежных справах для адабрэння, адзначыў: «На працягу некалькіх гадоў ён таксама займаецца беларускімі праблемамі. З'яўляецца аўтарам прагрэсіўнай на працягу трох гадоў павольнай нармалізацыі адносін паміж нашымі краінамі. Такім чынам завяваў давер улад у Мінску. Давёў да вырашэння трох пытанняў важных для двухбаковых адносін: чакаючых цяпер падпісання адукацыйных пагадненняў, якія рэгулююць статус настаўнікаў польскай мовы ў Беларусі, атрымаў адабрэнне ўлад у Мінску на аўтсорсінгавыя візы (справа ў выдачы віз таксама за межамі консульства — М. Х.), што дасць магчымасць разгрузіць нашы консульствы, і ў канчатковым выніку давёў да ўзгаднення з беларускім бокам у справе пабудовы новага польскага пасольства РП у Мінску».

Пасля адзначыў, у спасылцы на польска-беларускія адносіны: «Мы хацелі б мець на другім баку мяжы партнёра незалежнага, суверэннага, стабільнага, які ў дадатак — гэта была б мара — кіраваўся б законамі прававой дзяржавы».

Сам кандыдат на пасаду пасла ў Мінску падкрэсліў: «Двухбаковыя адносіны з Мінскам з'яўляцца каштоўнасцю самой па сабе і пры ўсіх цяжкасцях трэба паспрабаваць іх скласці разумна». Дадаў: «Мы не будзем закрываць вачэй на парушэнні ў Беларусі фундаментальных каштоўнасцей». Успамінаючы аб надалей складанай сітуацыі палякаў у Беларусі, заўважыў: «Польская меншасць у Беларусі і беларуская ў Польшчы гэта вялікі патэнцыял, які павінен быць багаццем і мостам для нашага супрацоўніцтва».

Сярод задач, перад якімі стане, пералічыў м.інш. утрыманне і павелічэнне ролі Польшчы ў працэсе фармулявання палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі, у тым ліку праз інструменты Усходняга партнёрства. Хоча імкнуцца да павелічэння колькасці польскіх консулаў і адкрыцця ў гэтай краіне ў бліжэйшыя месяцы да васьмі візавых цэнтраў: «Магчыма і важна і з польскай перспектывы ажыццявіць яшчэ непарафіраванае пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму. Значна знізіць яно кошт віз для грамадзян Беларусі з 60 еўра да 35. Акрамя таго, рэгулюе катэгорыі асоб, якія маюць права на атрыманне бясплатнай візы».

Адным з яго галоўных прыярытэтаў будзе, вядома, падтрыманне польскай меншасці ў Беларусі — асабліва прызнавання Польшчай Саюза палякаў у Беларусі, у тым ліку ўрэгуляванне яе фінансавага становішча. Вельмі важным пытаннем з'яўляецца — на яго думку — аднаўленне гістарычнага дыялогу, і затым давядзенне да таго, каб знайсці беларускі катынскі спіс, атрыманне згоды на эксгумацыйныя працы, звязаныя з катынскімі злачынствамі і за належныя ўвекавечанні ахвяр — як адзначыў — не толькі ў Беларусі, але і беларускіх у Польшчы. Важным у яго дзейнасці мае быць пытанне ўвядзення малога памежнага руху, але раней умацаванне пагранічнай дагаворна-прававой базы. Звярнуў увагу на неабходнасць супрацоўніцтва з уладамі ў Мінску ў пытаннях эканомікі і бяспекі ў рэгіёне і — у рамках двухвектарнай палітыкі — выконвання Беларуссю правоў чалавека і стварэння лепшых умоў і больш магчымасцей для дзейнасці арганізацый адкрытага грамадства: «Польска-беларускія адносіны складваліся ў апошнія гады па-рознаму, не былі лёгкімі, але, несумненна, скрываецца ў іх нявыкарыстаны патэнцыял. Я перакананы, што ўдумлівымі і маленькімі крокамі можна яго запусціць на карысць абедзвюх дзяржаў».

Конрад Паўлік атрымаў аднадушную станоўчую ацэнку парламенцкай камісіі замежных спраў. Яго першай задачай у якасці пасла ў Беларусі будзе падрыхтоўка візіту міністра Вашчыкоўскага ў Беларусь, запланаванага на бліжэйшыя тыдні. Гэта будзе першы афіцыйны візіт на працягу многіх гадоў у гэтай краіне польскага кіраўніка знешнепалітычнага ведамства. Дэталі візіту пакуль невядомыя, але як гэта акрэсліў Конрад Паўлік, маюць абмяркоўвацца асноўныя праблемы польска-беларускіх адносін.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы 5 лютага адбылося адкрыццё экспазіцыі «Нашчадкі авангарда», якую складаюць працы прадстаўнікоў беларускага авангарда з калекцыі Музея сучаснага мастацтва ў Мінску. Ініцыятарам і суарганізатарам выставы з'яўляецца Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве, які ўжо чарговы раз прапанаваў Гайнаўскаму белмузею выставу беларускага мастацтва.**



# «Нашчадкі авангарда»

■ Пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў (трэці справа), генеральны консул РБ у Беластоку Ала Фёдарава (чацвёртая справа), дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко (першы справа), дырэктар Белмузея Тамаш Ціханюк (другі справа), самаўрадаўцы Гайнаўшчыны, прадстаўнікі ўстаноў культуры і адукацыі адкрылі выставу «Нашчадкі авангарда»

У гэты дзень Гайнаўку і Бельск-Падляшскі наведалі пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў, генеральны консул РБ у Беластоку Ала Фёдарава, дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Эдуард Швайко і яго намеснік Юлія Рубіна. У Гайнаўскім белмузеі адкрылі яны выставу «Нашчадкі авангарда», а ў Бельскім доме культуры ўручылі медаль Францыска Скарыны паэту і старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа» прафесару Яну Чыквіну. На адкрыцці выставы ў Гайнаўцы прысутнічалі кіраўнікі самаўрадаў, згуртаваных у Аб'яднанні самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча».

— Ужо традыцыяй стала, што ў пачатку года ў супрацоўніцтве з Культурным цэнтрам Беларусі арганізуем выставы ў нашым музеі, на якія прыбываюць дыпламаты Рэспублікі Беларусь, — заявіў вітаючы гасцей дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

Адказная ў белмузеі за мастацкую дзейнасць Агнешка Ціханюк удакладніла, што выстава «Нашчадкі авангарда» гэта адлюстраванне пошукаў, эксперыментаў, дасягненняў пакаленняў мастакоў, якіх можна назваць спадкаемцамі класічнага авангарда.

— Беларускі авангард гэта з'ява сучасная, але выводзіцца ён ад Марка Шагала і Казіміра Малевіча, нашых беларускіх жывапісцаў, суструвальнікаў еўрапейскага авангарда. Сёння можам паглядзець працы нашых лепшых мастакоў. Мы рады, што ў нас складаецца добрае супрацоўніцтва з Беларускім музеем у Гайнаўцы, што мясцовыя самаўрады падтрымліваюць дзейнасць музея ў Гайнаўцы, — заявіў пасол РБ у Польшчы Аляксандр Авяр'янаў.

Генеральны консул РБ у Беластоку Ала Фёдарава прапанавала праджаць супрацоўніцтва з прыгранічнымі раёнамі Беларусі. Гэтым займаюцца нашы самаўрады, згуртаваныя ў Аб'яднанні самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча». Дырэктар бюро Аб'яднання самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча» Ян Хомчук удакладніў, што ў рамках еўрарэгіёна вядзецца супраца з Камянецкім, Свіслацкім і Пружанскім раёнамі, якія таксама належаць да трансгранічнага еўрарэгіёна «Белавежская пушча». Апошнім буйным рэзультатам супрацоўніцтва былі дарагія і багата абсталяваныя пажарныя машыны, якія атрымалі дзяржаўная і добраахвотныя пажарныя каманды з Гайнаўкі і наваколных гмін, купленыя за еўрасаюзныя сродкі. У мінулых гадах у супрацы з прыгранічным раёнам у Беларусі мадэрнізавалася ачышчальня сцёкаў у Гайнаўцы і падобная інвестыцыя праводзілася ў Рэспубліцы Беларусь з выкарыстаннем еўрасаюзных сродкаў. Зараз самаўрадаўцы таксама разлічваюць на атрыманне еўрасаюзных сродкаў на трансгранічныя інвестыцыі і культурнае супрацоўніцтва. Музычныя калектывы з Рэспублікі Беларусь часта прыязджалі апошнімі гадамі на музычныя мерапрыемствы ў Гайнаўцы, Кляшчэлях і іншых гмінах Гайнаўскага павета.



Ад імя самаўрадаўцаў Гайнаўшчыны перад адкрыццём выставы выступіў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які падзякаваў беларускім дыпламатам за супрацоўніцтва і ініцыятывы, рэалізаваныя апошнім часам Музеем і асяродкам беларускай культуры ў Гайнаўцы.

— Для Гайнаўкі вялікі прэстыж, калі ў нашым горадзе прэзентуюцца карціны вядомых у Беларусі і Еўропе мастакоў. Такія працы паказваюцца ў галерэях вялікіх гарадоў, а тут нашы жыхары могуць паглядзець іх на месцы. У Белавежу прыязджае многа турыстаў, якія па дарозе затрымліваюцца ў Гайнаўцы. Ім цікава будзе паглядзець у нашым горадзе працы лепшых мастакоў Беларусі, спадкаемцаў іконы авангарда Марка Шагала — сказаў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак.

— Апошнімі гадамі музей у Гайнаўцы працуе вельмі плённа і наша супраца разгортваецца, — заявіў дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі Эдуард Швайко, спасылаючыся на шматгадовую супрацу Музея і асяродка беларускай культуры з Музеем сучаснага мастацва ў Мінску.

— У мінулым годзе наш музей арганізаваў каля ста культурных мерапрыемстваў, калі палічыць усе фэсты, выставы, сустрэчы ў нашых будынках і ў нашых вёсках. Важная для нас супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь, у рамках якога арганізуем культурныя імпрэзы, напрыклад, выставы. Гэта адбываецца ў супрацы з Культурным цэнтрам Беларусі ў Варшаве. Раней мы супольна ладзілі выставы прац, прывезеных з Беларусі, ці археалагічных экспанатаў з Гродна. Разлічваем, што сённяшнюю выставу будуць наведваць жыхары горада і турысты, — гаварыў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

— На выставе прэзентуюцца вельмі цікавыя працы, якія выйшлі з-пад пэндзля вядомых беларускіх жывапісцаў, прадстаўнікоў беларускага авангарда. Кожны можа знайсці нешта займальнае для сябе, а мне спадабаліся светлыя карціны з цікавымі матывамі, — сказаў староста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк. — Разлічваем на супрацоўніцтва з Беларуссю ў будучыні.

— Дзякуючы таму, што жывуць тут беларусы, ладзіцца супрацоўніцтва з Беларуссю і рэалізуюцца культурныя мерапрыемствы і трансгранічныя інвестыцыі. Мы запрашалі калектывы з Беларусі на нашы мерапрыемствы. Разлічваем таксама на супольныя трансгранічныя праекты з прыцягненнем еўрасаюзных сродкаў. Сёння бачым станоўчы прыклад такой супрацы, захапляючыся цікавымі карцінамі лепшых беларускіх жывапісцаў, — заявіў бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі.

На адкрыццё выставы прыбыў таксама дырэктар Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Яўген Сачко, якога ўстанова здаўна супрацоўнічае з дыпламатамі РБ.

На адкрытай у белмузеі выставе «Нашчадкі авангарда» прэзентуюцца 43 працы 24 беларускіх жывапісцаў.

— Раней у Мінску дзейнічалі Музей сучаснага мастацтва, у якога калекцыі былі карціны тут прэзентаваныя, і Цэнтр сучаснага мастацтва. У мінулым годзе абедзве ўстановы аб'ядналіся ў Рэспубліканскі цэнтр сучаснага мастацтва, які састаўляюць майстэрні і выставачныя залы. Працы, якія тут бачым, належаць цяпер Рэспубліканскаму цэнтру сучаснага мастацтва, — сказала намеснік дырэктара Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Юлія Рубіна. — У Беларусі авангард у пачатку ХХ стагоддзя фарміраваўся віцебскімі эксперыментальнымі мастакамі Казімірам Малевічам і Маркам Шагалам, зараз добра вядомымі ў Еўропе. Тут прэзентуюцца цікавыя працы жывапісцаў, прадстаўнікоў авангарда, між іншым карціны мастакоў, якія нядаўна памерлі, Георгія Скрыпнічэнкі і Аляксея Жданава. Цікавыя таксама карціны Сяргея Цімохава.

Гайнаўскія знатакі жывапісу звярнулі ўвагу на карціны «Позірк у другі бок» Георгія Скрыпнічэнкі, «Гарадскі пейзаж» Аляксея Жданава і «Медытацыя дзень і ноч, ці зацьменне» Аляксандра Забаўчыка.

— На выстаўцы прэзентуюцца карціны розных плыняў авангарда. Узровень карцін вельмі высокі. Бачым тут работы ад сюррэалізму ажно да абстрактнасці. Беларускі авангард вядомы ў Еўропе і гонар нам прэзентаваць яго ў нашым белмузеі, — гаварыла адказная ў белмузеі за арганізаванне мастацкіх выстаў Агнешка Ціханюк.

Дырэктар Гайнаўскага дома культуры Расціслаў Кунцэвіч звярнуў увагу на больш рэалістычныя працы.

— Авангард браў пачатак, між іншым, ад беларускага жывапісца Марка Шагала. Таму цікава паглядзець працы беларускіх прадстаўнікоў авангарда. Некаторыя карціны вельмі цікавыя. Добра, што ў нашым горадзе ёсць магчымасць паглядзець такія работы, — заявіў гайнаўскі жывапісец Данель Грамацкі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

**ФНР**
**Фонд народных рэцэптаў**

## Знізіць высокі ціск

Як хутка знізіць высокі ціск у хатніх умовах?

Артэрыяльная гіпертанія — адно з найбольш часта дыягназаваных захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы. Дадзеная паталогія характарызуецца хранічна высокімі паказчыкамі артэрыяльнага ціску. Як самастойнае захворванне гіпертанія сустракаецца вельмі рэдка. Часцей за ўсё, паталогія з'яўляецца адным з ускладненняў іншага сур'ёзнага захворвання. Гіпертанія здольная выклікаць збоі ў працы практычна ўсіх сістэм арганізма чалавека, але самым сур'ёзным з усіх ускладненняў з'яўляецца гіпертанічны крыз. Гэта найбольш складаны стан, здольны справакаваць развіццё інфаркту альбо інсульту. Як знізіць артэрыяльны ціск хутка? Вось чатыры простыя, але вельмі эфектыўныя спосабы зніжэння высокага ціску без таблетак.

**Масаж.** Плаўнымі павольнымі рухамі масажуй шыю, робячы акцэнт на патылічнай вобласці.

**Воцатны кампрэс.** Вазьмі 2 кавалачкі тканіны і намачы іх у яблычным або звычайным сталовым воцаце. Прыкладзі да пят і трымай 5-7 мін. Праз 20-30 мін. вымерай ціск. Калі паляпшэння не наступіла, паўтары яшчэ раз.

**Журавінавы сок.** Развядзі ў 100 мл сокутакую ж колькасць мёду. Прымаць трэба тройчы ў дзень па маленькай лыжцы. Падыходзіць для людзей з хранічнай гіпертаніяй.

**Акупунктурныя пункты.** Уздзейнічаеш на лінію, якая размяшчаецца ад паглыблення пад мочкай вуха і да ключыцы. Прыкладзі паказальны палец у паглыбленне пад мочкай вуха, націсні і правядзі па лініі да сярэдзіны ключыцы. Уяўная лінія павінна быць практычна вертыкальнай. Ціснуць моцна не трэба, дастаткова пагладжваць скуру пальцам. Правядзі па 8-10 разоў з кожнага боку галавы. Вынік зафіксуй, вымераўшы ціск да масажу і адразу пасля яго. Паспрабуй!

**Ясюк СТРУК**

## Сетка веласіпедных сцяжынак

У Беластоку з кожным годам прыбывае веласіпедных сцежак. Зараз маем іх каля ста кіламетраў. Некаторыя з іх шматкіламетровыя, асфальтавыя. Гэта, між іншым, пабудаваная пару гадоў таму веласіпедная сцяжынка побач вуліцы 42 Пяхотнага палка (раней яна называлася 27 Ліпеня).

Цяпер з пасёлка Выгода ў цэнтр горада даедзем 2-кіламетровай веласіпеднай сцяжынкай ад алеі Пілсудскага да вуліцы ген. Андэрса. Каб было больш бяспечна ехаць пабудавалі дарожкі пад двума мастамі ўздоўж алеі Пілсудскага да вуліцы Палацовай у цэнтры горада.

Ідуць намаганні, каб сцежкі часцей спалучаліся. Веласіпедыстаў ужо не задавальняюць толькі кавалкі дарожак. Часта ж ёсць так: едзеш-едзеш, а далей сцежка ўрываецца. Прыходзіцца ехаць па тратуары або па маставой. Ну, вядома, не ўсюды ёсць тэхнічныя магчымасці пабудовы веласіпедных дарожак. Вось, для прыкладу, на вуліцы Сянкевіча на адрэзку ад алеі Пілсудскага да Рынку Касцюшкі.

Сёлета магістрат хоча пабудаваць веласіпедную сцяжынку ўздоўж вуліцы Цыялкоўскага ды веласіпедны пераезд цераз алею Салідарнасці. Гэтыя інвестыцыі маюць быць зроблены да канца ліпеня гэтага года. **(яц)**

**У Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку некалькі дзён запар можна было прымаць удзел у мультымедыйнай экспазіцыі «Што людзі сказалі», падрыхтаванай моладдзю пад кіраўніцтвам аніматарак з Асацыяцыі практыкаў культуры. З дапамогай розных форм прадстаўлення (здымкі, гуказапісы і фільмы, кулінарыя і г.д.) стараліся ўспомніць гісторыі міжваеннага перыяду, прыведзеныя мясцовымі жыхарамі, сярод іншага з ваколіц Міхалова і Крынак.**

# У добрым суседстве

На працягу некалькіх гадоў Асацыяцыя практыкаў культуры з Варшавы падарожнічае па мясцовасцях, распаложаных уздоўж усходняй мяжы Польшчы, вядучы ў іх майстэрні для мясцовай моладзі. «Ніва» ўспамінала аб тым рэгулярна пры нагодзе іх ранейшых дзеянняў у Крынках і Міхалове. Дзеячы Асацыяцыі размаўляюць з маладымі людзьмі пра жыццё ў мультыкультурным грамадстве, аб павазе да іншасці і гісторыі. Ствараюць фільмы, гульні і наведваюць ваколіцы з новага пункту гледжання — на хадулях. Падчас нядаўніх канікул у рамках праекта «Памежныя ў дзейнні» сумесна з маладымі сябрамі з Крынкак, Міхалова і Даўгабычава на Люблінвшчыне слухалі даўніх гісторый. Размаўлялі з прадстаўнікамі розных пакаленняў, збіралі ўспаміны, песні, анекдоты. Пыталіся аб даўнія звычаі, суседзяў, мультыкультуралізм. Сабраныя гісторыі пераправілі ў мабільную, мультымедыйную выставу, якую можна наведаць у прыгранічных мясцовасцях да сакавіка.

Узнікаючыя ў гісторыях тэмы былі арганізаваны ў шасці арт-інсталяцыі датычных тэматычных абшараў, звязаных, у прыватнасці, з храмамі розных канфесій, ці дварамі, дзе можна было пачуць розныя мовы. Гледачы маглі прымераць касцюмы з эпохі і паслухаць праз навушнікі расказы, запісаныя маладымі людзьмі іх уласнымі словамі пры століках з раскладзенымі на іх арыгінальнымі асабістымі архіўнымі фатаграфіямі, прадметамі ці прыкладамі кулінарных вырабаў, такіх як маца ці пагляддзець відэа з прэзентацыяй кулінарных рэцэптаў. Арт-інсталяцыі ілюструюць розныя вобласці жыцця людзей даваеннага перыяду. Яны паказваюць мультыкультурныя супольнасці, іх штодзённыя перажыванні, мары, радасці. Расказваныя гісторыі ахапілі 1918-1939 гады. На адным з відэазапісаў моладзь з Крынак увасобілася ў мясцовых даваенных габрэяў (імёны ўзятыя з мясцовых надмагілляў), і паказвалася ў такіх увасабленнях як быццам не было ніякага Халакосту, прадстаўляючы выдуманыя гісторыі іх будучага жыцця. Ганна Чыжэўская з Асацыяцыі практыкаў культуры ў час адкрыцця выставы ў Гарадку (9 лютага) расказвала:

— У ходзе праекта ў рамках майстэрняў моладзевыя групы дзесяць дзён гаварылі са старэйшымі жыхарамі не толькі з тых мясцовасцей, адкуль маладыя людзі выводзяцца, але і з суседніх. Выставу маладыя людзі падрыхтавалі ў ходзе сумеснай тыднёвай паездкі. Паказваем яе ў некалькіх месцах. Перад прыездам у Гарадок была яна ў Белавежы, Даўгабычаве, Грубешаве, будзе ў Крынках, Міхалове і Владаве.

Успамінаючы аб мэтах праекта звярнула ўвагу:

— Мы хацелі паказаць, што разнастайнасць з'яўляецца каштоўнасцю: развівае, узбагачае, прыцягвае, робіць людзей, якія жывуць тут, выключнымі. З аднаго боку, мы хацелі азнаёміць удзельнікаў і ўдзельніц праекта з тым, што з'яўляецца памяццю, мінулым, як людзі разумеюць гісторыю з уласнага, індывідуальнага пункту гледжання. З іншага боку, мы хацелі паказаць добрае агульнае суседства, той добры вопыт і практыку. Усе мясцовасці, якія мы наведалі — мультыкультурныя, у якіх людзі жывуць па-рознаму: яны маюць розныя рэлігіі, гавораць на розных мовах, маюць розныя кулінарныя традыцыі..., але перш за ўсё, па-рознаму вызначаюцца ў этнічным плане і жывуць ад пакаленняў разам. У нас склалася ўражанне, што розныя культуры, якія тут, у непасрэднай блізкасці ад Крынак, Міхалова і Гарадка, жывуць разам у пошуках розных дарог. Цяжкая супольная гісторыя і напружанасці, звязаныя з аповедамі пажылых людзей, вядома, вярталіся. Мы прыйшлі да высновы, што канфлікты, часам жорсткія, з'яўляюцца вынікам таго, што сярод кожнай супольнасці жывуць дрэнныя людзі. Мы звярнулі ўвагу на добрых людзей, якія ў ходзе нават самых трагічных падзей, па-над культурнымі падзеламі маглі прыйсці да паразумення і дапамагаюць адзін аднаму. Так што на выставе можна знайсці прыклады ў асноўным добрага вопыту паўсядзённага жыцця, зямнога, без злых, экстрэмальных сітуацый, аб якіх найбольш часта чуецца ў публічнай прасторы. Напрыклад, як каталіцкія дзеці каштавалі габрэйскія стравы або як маці-габрэйка папрасіла суседку-каталічку, каб, падрыхтоўваючы ежу, якой частаваўся яе сын, гатавала таксама кашэрнае, каб і яе сын мог з'есці страву.



Агнешка Зажынская таксама з Асацыяцыі практыкаў культуры:

— Праект завершаны выставай фактычна працягваецца ўжо два гады. Спачатку мы арганізавалі яго з назвай «Прыгранічныя». Знаёміліся з маладымі людзьмі, якія склалі асноўную частку гэтага выпуску. Тады не было такой канкрэтнай мэты, як цяпер. Перш за ўсё мы падрыхтавалі семінар па культурнай разнастайнасці: запісвалі фільмы, спявалі песні. Аб лакальнасці спрабавалі гаварыць адзін з адным па-рознаму. Цяпер, асабліва для пажылых людзей, якія з намі дзеляцца ўспамінамі, мы траплялі выпадкова. Мы сустракалі іх на вуліцы, грукалі ў дзверы. Ёсць два наратывы, з якімі мы сутыкаліся. Першы — афіцыйны, які можна было пачуць падчас інтэрв'ю, калі нам расказвалі, як добра жылося разам, як супольна праводзілі час і мы паспрабавалі паказаць гэта на выставе. Былі, аднак, нашмат складанейшыя аповесці, калі можна было прыкмеціць падзелы і аказалася, што адносіны не заўсёды былі сяброўскімі. Гэта знайшло сваё адлюстраванне нават у цытаваных, адмоўных формах наймення іншых груп: кацап у адносінах да беларусаў, праваслаўных ці вымаўленні слова «жыд». Аб польска-беларускіх канфліктах людзі расказвалі неахвотна, часцей ужо пра тыя з мясцовымі габрэямі. Калі ўжо пра польска-беларускія, праваслаўна-каталіцкія то па прынцыпе «хтось, дзесь, ад кагосьці чуў», а не з прамога кантакту.

Адна з маладзейшых удзельніц праекта, міхалоўская гімназістка Паўліна Сташэўская:

— Я трапіла ў праект год таму. Мы хадзілі да людзей і проста размаўлялі аб іх успамінах. Напрыклад, мы прыйшлі да пані Ніны Горбач, паглядзелі яе фатаграфіі і паслухалі яе аповед пра тое, што яна рабіла, калі была малая, як гуляла, пра яе сям'ю. Выставу рыхтавалі мы на сумесным выездзе — «кангрэсе». Прыняла ў ім удзел моладзь, якая раней збірала ўспаміны, з трох мясцовасцей. Мы хацелі ведаць, як было калісь, як ладзілася паміж суседзямі, ці людзі жылі ў гармоніі, ці калісь палякі і беларусы ладзілі паміж сабою кожны дзень. Ну і якое было стаўленне да габрэяў. Для гэтай выставы я падрыхтавала пачутыя рэцэпты, у тым ліку на цымус, на спецыяльна падсмажаную бульбу і закваску. З больш чым дзясяткам чалавек з Міхалова, якія ўдзельнічалі ў праекце, надалей сустракаемся.

Дарота Сульжык з ГЦК у Гарадку, галоўная рэдактар «Гарадоцкіх навін»:

— Вельмі важна, што выставу мелі магчымасць пабачыць групы дзяцей і падлеткаў з Гарадка і ваколіц, каб убачаць, што ёсць людзі, якія прыязджаюць з Варшавы і цікавяцца тым, як ёсць у нас.

Настаўніца Комплексу школ у Гарадку Ірэна Матысюк:

— Выстава вельмі цікавая, таму што яна ўздзейнічае на шмат пачуццяў: і зроку, і слыху, і нюху. Стымулюе ўсе пачуцці, каб думаць пра мінулае. Гэта асабліва цікава для дзяцей. Так, як цікава гэта для іх як выглядаў, напрыклад, паказаны мячык з анучак. Вельмі важна, што расказы пра тое, як гэта было раней, выслухалі маладыя людзі і што менавіта яны дзеляцца пачутым з намі. Трэба памятаць, што аб тым, як было калісь, асабліва ў Гарадку, штораз менш і менш людзей гаворыць пабеларуску, па-свойму, як і я, і яшчэ менш памятае, што перад вайной было тут так шмат габрэяў, што сёння гарадоцкі габрэйскі могільнік ад гадоў зарастае лесам. Калі мы хочам, каб не было нянавісці, не толькі павінны ведаць сваю культуру добра, але і іншыя. Мы павінны разумець, што месца, у якім мы жывем, не толькі «маё», але і «наша» — супольнае. Вось чаму падабаецца мне гэтая выстава.

Данута Гаркоўская, намесніца дырэктара школы:

— Маладыя людзі сёння любяць мультымедыя, так што з выставы выходзяць зацікаўленыя. Любая форма перадачы аб тым, што было ў мясцовай супольнасці, так як у Гарадку мультыкультурнай, мае важнае значэнне. І таму выстава вельмі важная.

Дырэктар гарадоцкага ГЦК Юры Астапчук:

— Часта ёсць так, што мы проста не маем часу, каб услухацца ў тое, аб чым размаўляем адзін з адным, і як мы праз гэта ствараем нашу агульную гісторыю. Выстава схіляе да таго. Мне вельмі падабаецца ідэя, якая яе суправаджае. Падобныя па пасыле выставы будзем старацца арганізаваць часцей.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Хто важнейшы — караед, дзяцел, елка ці чалавек?

Адно з пытанняў эколагаў найбольш іх турбуючых: ці вы ведаеце, што ў Белавежскай пушчы, дзе вядзецца лясная гаспадарка, у чатыры раз менш дзятлаў трохпальцых? Гэта таму, што дзятлы любяць рабіць дуплы ў мёртвых елках, любяць таксама харчавацца караедамі. Дарослы дзяцел можа з'есці 670 тысяч караедаў у год! Знішчым хворыя елкі, дзе бытуюць караеды, прападзе дзяцел, прападзе і ўся пушча!

Дрэвастой без гаспадарчага бізнесу мае ў Белавежскай пушчы плошчу 22 838 га, што складае 46% ад плошчы лясоў надлясніцтва Белавежа. Значыць, 54% паверхні Пушчы знаходзіцца па-за ўплывам вядзення лясной гаспадаркі, знаходзіцца пад «пасіўнай абаронай», значыцца — «там нічога не робіцца»! Групы, якія лічаць сябе «абаронцамі лесу», што падпісваюцца як экалагічныя, уводзяць у зман грамадскую думку, сцвярджаючы, што толькі 30% пушчы абараняецца. У выніку працягваючайся градацыі караедаў і адсутнасці гаспадарчай дзейнасці распад і дэзынтэграцыя дрэвастою Пушчы паскорыліся і скарацілися з веку да дзесяцігоддзя. У сапраўднасці леснікам у іх дзейнасці не залежыць на высечцы дрэў, здабыванні драўніны, а на затрыманні і палагоджанні гэтага працэсу.

### Ненасытныя караеды

**Яловы караед-друкар** *Ips typographus (L.)* адносіцца да атрада жукоў сямейства караедаў. Гэта невялікае (каля. 4,5 мм у даўжыню), карычневае насякомае з характэрным для ўсіх караедаў цыліндрычным корпусам і мембранавымі крыламі, схаванымі пад хіцінавымі вечкамі. Дарослыя выдатна лятаюць — могуць пакарыць адлегласць да некалькіх кіламетраў. Лічынкі жывуць пад карой, белыя і растуць да памеру рысавага зерня. Кукалкі таксама белыя, памеру жука. Вясной, калі дастаткова цёпла, зімуючыя ў іглішы або пад карой елі жукі караеда-друкара пачынаюць палёт. Яны імкнуцца знайсці месца для вывядзення патомства, значыць, елак прыдатных для жыру. Караед засяляе ў першую чаргу зваленыя і зламаныя дрэвы (але толькі са свежым лыкам), а затым — аслабленыя рознымі фактарамі стаячыя дрэвы. Выбар такіх дрэў робяць самцы, званыя караедамі-пінерамі. Яны валодаюць здольнасцю распазнаваць (на аснове хімічных рэчываў) дрэвы прыдатныя для засялення. Піянерскія жукі вылучаюць рэчывы, якія змяшчаюць інфармацыю аб хімічнай прынадзе для іншых жукоў таго ж або супрацьлеглага полу. Гэта так званыя агрэгатыўныя ферамоны (прываблівающыя абодва палы) або палавыя (прываблівающыя самак). Самцы рыюць у кары дрэў каморкі спарвання, у якія зваблiваюць самак ад адной да трох (нават чатырох). Тыя ў сваю чаргу капаюць праходы ўздоўж сцябла валакна дрэў, дзе адкладваюць яйкі. Выкляваныя з іх лічынкі, жыруючы перпендыкулярна ўздоўж калідораў, рыюць лічынкавыя ходнікі, завершаныя кукалкавымі калыскамі. Такім чынам робіцца адметны рысунак жыравання яловага караеда-друкара. Пасля выхаду з кукалак вылятаюць жукі чарговага пакалення і цыкл паўтараецца. Гэта можа адбывацца ў тым жа або ў наступным вегетацыйным перыядзе. Караед зімуе на ўсіх этапах развіцця, але ў большасці стадыі жука, на жыровішчах або ў лясным подсціле.

Тэмпы развіцця караеда пад карой залежаць ад надвор'я, асабліва тэмпературы. Ад гэтага залежыць колькасць пакаленняў, якія караед можа вывесці на працягу вегетацыйнага перыяду. Караеда-друкара суправаджаюць — на тых жа дрэвах — іншыя, сваяцкія з ім віды караедаў, найбольш распаўсюджаныя з якіх — караед-друкарчык *Ips amitinus Eichhof*, і друкар паспаліты *Pityogenes chalcographus L.* Гэтыя кузуркі, асабліва друкар паспаліты, меншыя ад друкара. Яны насяляюць верхнія часткі стваловў дрэў і галін у кроне, у той час як яловы караед — у асноўным сярэдняя і ніжнія часткі. Караед з'яўляецца прычынай смерці елі, якую яму ўдалося засяліць. Жыраванне жукоў і лічынак у кары заўсёды прыводзіць да адмірання дрэва ў выніку механічнага пашкоджання лыка і хімічных змяненняў, якія адбываюцца ў ім, так пад уплывам пашкоджанняў і грыбковых інфекцый, што перадаюцца ад жукоў. Не кожнае дрэва ад нападу караеда памірае. Многія з гэтых відаў абараняюцца супраць нападу, часта паспяхова. З пункту гледжання экалагічнага балансу паміж папуляцыяй караедаў і папуляцый елі, для каланізацыі выбіраюцца слабейшыя дрэвы, значыць, караед служыць для выбарчага выдалення дрэў без будучыні і стварэння прасторы для падрастаючага пакалення. Аднак, калі дойдзе да хістанняў у дынамічнай раўнавазе, павялічваецца агрэсіўнасць яловых караедаў. Гэта адбываецца пры павелічэнні колькасці насельніцтва ва ўмовах багацця племяннай базы (напрыклад, пры мностве паламаных ялін) або паслаблення дрэў, якія не могуць эфектыўна абараняцца ад налятаючых жукоў. Гэта прыводзіць да адмірання груп дрэў, прычым паспяхова каланізуюцца дрэвы ў штораз лепшым стане. Называецца гэта градацыяй — масавым з'яўленнем караеда.

### Эколагі — пажывем пабачым

Экалагічныя арганізацыі чакаюць і бяруцца за дзеянні, каб уся плошча Белавежскай пушчы атрымала статус нацыянальнага парку. Здаецца, аднак, што гэтыя арганізацыі, апрача спроб выклікаць грамадскую падтрымку



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

для сваёй ідэі, выклікаўшы адначасовае нежаданне да леснікоў, выкарыстоўваць тактыку так званых малых крокаў. Што гэта такое? Справа ў градацыі яловых караедаў, атакуючых елі ў Белавежскай пушчы. У Белавежскім нацыянальным парку (каля 30% Белавежскай пушчы) гэтая градацыя развіваецца без перашкод. Градацыя, гэта значыць, даводжанне да адмірання здаровых дарослых ялін і цэлых ельнікаў. Дзяржаўныя лясы ў адпаведнасці з заканадаўствам маюць абавязак змагацца за тое, каб спыніць градацыю, і тым самым выратаваць рэшту ельнікаў, якія кантралююцца і кіруюцца Дзяржаўнымі лясамі. Таму такую барацьбу вядуць таксама ў Белавежскай пушчы. Уся паўночна-ўсходняя Польшча, таксама плошча Белавежскай пушчы, з'яўляецца прыроднай паўночнай мяжой арэалу елкі ў Польшчы. Ель у Белавежскай пушчы з'яўляецца натуральнай з'явай.

Што павінна ахопліваць абарона? Дзейнасць яловага караеда, які знішчае елкі, ці, хутчэй, натуральныя ельнікі? Градацыя яловых караедаў, масавае паяўленне караеда-друкара прыводзіць да хуткага росту колькасці насельніцтва і каланізацыі елі, якая вядзе да іх смерці. Караед-друкар у збалансаванай экасістэме не будзе нападаць на дрэвы цалкам здаровыя, гэта значыць, можа спрабаваць, але толькі аднаму або некалькім насякомым з большай групы ўдасца засяліць такое дрэва. Іншыя будуць заліты жывіцай. Не інакш стане з большасцю яек ці лічынак. Такое засяленне стройнай здаровай елкі караедам-друкаром не пагражае жыццю дрэва. Бягучая градацыя яловых караедаў не з'яўляецца натуральнай з'явай. Наадварот. Гэта вытворная антрапагенных фактараў, гэта значыць усіх тых відаў дзейнасці чалавека, якія ўнеслі свой уклад у стан паслаблення елак у Белавежскай пушчы, і гэта яны далі пачатак градацыі, якую можна своечасова затармазіць. Нават калі караед закончыць сваю справу, на што разлічваюць «экалагічныя арганізацыі», новыя экасістэмы надалей не будуць развівацца ў «натуральным асяроддзі», таму што гэта надалей будзе паддавацца фактарам вынікаючым з чалавечай дзейнасці. Можа, гэтым арганізацыям, якія падмацоўваюцца думкамі розных аўтарытэтаў з усяго свету, проста цікава, што будзе далей? Што зробіць караед, калі спустошыць усе елі? Можа, хопіць паглядзець «месячы краявід» у Баварскіх лясах і паўтарыць гэты досвед? Пасля спусташэнняў, якія робіць караед-друкар, невядома, ці лес увогуле адбудуецца. Ніхто ў цяперашні час няздольны прадказаць, ці будзе магчыма і як аднавіць экасістэму, калі з'явіцца велізарная колькасць сухастою, якая выкліча пажары, і ці не паявяцца яшчэ іншыя фактары па шляху, якія будуць паспяхова тармазіць аднаўленне лясных структур. Зразумела, мёртвыя елі фармуюць біяразнастайнасць, але толькі тады, калі не маем справы з масавым іх выміраннем. У выпадку масавага вымірання елі наступіць поўнае змяненне экасістэмы, з якой некаторыя віды выцясняюцца і на іх месцы паяўляюцца іншыя. Як тады варта разумець біяразнастайнасць? Багаццем ліку відаў у экасістэме, ці можа павелічэннем прысутнасці відаў у змененай экасістэме? Многія біёлагі лічаць, што градацыя дапамагае аднавіць раўнавагу. У рэшце рэшт, калі караед не будзе больш масава пасяляцца, градацыя спыніцца і навакольнае асяроддзе пачне аднаўляць сваю раўнавагу. Проста цікава для назіральнікаў і новых доктарскіх прац на экалагічныя гранты? Ці гэта навукова?

### Леснікі — выразаць драўніну

Ці леснікі маюць адмовіцца ад прац накіраваных на знішчэнне папуляцыі караеда-друкара? Леснікі абараняюцца: «Сцвярджэнне, што Дзяржаўныя лясы не спраўдзіліся як менеджар гэтай унікальнай ва ўсім свеце лясной экасістэмы, якая кіруецца спантаннымі экалагічнымі працэсамі» супярэчлівае. Няўрадавыя арганізацыі ведаюць, што леснікі маюць кіраваць лясамі ахоўваючы іх, выконваючы свае задачы ў адпаведнасці з літарай закона. Ды яны выконванне абавязкаў леснікоў лічаць сімптомам «няправеранасці», патрабуючы ад іх адмаўлення любой дзейнасці ў Белавежскай пушчы, абмяжавання санітарных выразак і дазволу на далейшыя градацыі караеда». Леснікі адзначаюць, што велізарная градацыя яловага караеда пагражае далейшаму існаванню ельнікаў (у Белавежскай пушчы яліна займае 32% плошчы лясоў.). Больш за тое, распад елі дасць доўгатэрміновы эфект на мясцовую экасістэму (відавая і пакаленная структура дрэвастою, водныя адносіны, мікраклімат), пагражаючы існаванню каштоўных месцапражыванняў і відаў, якія ахоўваюцца ў адпаведнасці з праграмай „Natura 2000”. Засуха паглыбляе крызіс, дадаткова паслабляючы дрэвы і робіць іх яшчэ больш уражлівымі для нападаў караедаў (паводле Генеральнага дырэктарата Дзяржаўных лясоў).

Адзіны спосаб складаецца ў выдаленні заселеных дрэў і падтрыманні барацьбы выкладваннем ферамонных пастак. Яловы караед масава нападае не толькі на аслабленыя дрэвы, але і здаровыя. Здаровае дрэва спачатку абароніцца. Пакаленне «сястрынае» (самкі адкладаюць яйкі ў другі раз) праз некалькі тыдняў апануе здаровае дрэва, даводзячы да яго смерці. Караед у спрыяльных умовах (гарачае, сухое лета, наступнае пакаленне «сястрынае») можа выдаць і трэцяе пакаленне, што можа доўжыцца да восені. З гэтай надзвычай экспансіўнай кузуркай практычна адзіны спосаб барацьбы — выдаліць населеныя дрэвы.

Барацьба з караедам змушае да павелічэнне выразкі драўніны, бо застаецца толькі два варыянты — альбо ў наступным сезоне трэба будзе выразаць іх яшчэ больш, бо градацыя развінецца — або стройныя елі засохнуць. Іншай альтэрнатывы не існуе.

А пушчанскія людзі чакаюць, хто вымра першы?

Міра ЛУКША


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

з о р к а
для дзяцей і моладзі


# Той мае — хто чытае!



Прадметныя конкурсы і алімпіяды — тэма месяца. Перад намі фінал.

Як не цікава, усе сёлетнія прадметныя конкурсы па беларускай мове закранулі тэму «Нівы» і «Зоркі». Невыпадкова, цягам бягучага года наш тыднёвік адзначае 60-годдзе.

Вось, асноўная тэма ў гімназіі (на раённым этапе) датычыла «Зоркі». Гімназісты атрымалі за задачу напісаць сачыненне пра нашу старонку. Як пасля аказалася, гэта быў самы прыемны выклік для нашай моладзі. Тыя, што ведаюць «Зорку» ад наймалодшых гадоў, сваё сачыненне папоўнілі асабістымі прыгодамі з газетай. Пра тое як надрукавалі свой верш, пра радасць ад узнагарод за рашэнне загадак і крыжаванак, пра ўдзел у Сустрэчах «Зоркі»...

Вынікі раённага конкурсу паказалі дзіўную залежнасць. Найбольш фіналістаў у тых школах, дзе найбольшая падпіска на «Ніву».

Адной з такіх школ з'яўляецца беластоцкая праваслаўная школа. Хоць тут жменька гімназістаў, ажно 11 перайшло да цэнтральнага этапу (усіх фіналістаў — 63). Калі дабавіць яшчэ фіналістаў з пачатковай школы, дык атрымаецца рэкордная колькасць, бо ажно 20 асоб... Усё гэта ў школе, якая толькі разгортвае сваю дзейнасць! Аднак ад самага пачатку настаўнікі прыручаюць дзяцей сябраваць з беларускай газетай.

Таксама ў праваслаўнай школе трэці год запар у рамках Дзён нацыянальных моў арганізуюць «Беларускую дыктоўку». Сёлета адбудзецца яна 19 лютага.

Уключыцца ў беларускую інтэлектуальную прыгоду заявілі ахвоту Гімназія № 7 у Беластоку і школа ў Нарве. Яшчэ ў той самы дзень наладзяць «Конкурс стральбы» ды пакажуць беларускія спектаклі і песні.

Наша газета традыцыйна будзе трымаць ганаровы патранат. Таксама пераможцы «Беларускай дыктоўкі» ў якасці ўзнагароды атрымаюць гадавыя падпіскі на «Ніву».

**Зорка, фота ГК**

Міра ЛУКША

## Ліпа

*З павагай, нібы свацця,*
*стаіць ліпа пры хаце,*
*так пісаў аб ёй Купала.*
*Гадоў чатырохсот дасягала.*
*Метраў сорак у паветра,*
*дыяметрам да двух метраў,*
*Меданосная і паловая*
*пчол сталоўка ліпнёвая,*
*дабрабытная і багата*
*і для гасцей крылатых.*
*Усе мы ад ліпкі,*
*як у казцы пра Піліпку:*
*дзед з паленца выцясаў,*
*у калыску бабцы паклаў,*
*стала баба калыхаць*
*ды сыночка гадаваць.*
*Ліпа-маці калыша,*
*паэт пад ёй вершы піша,*
*медытуе мядовыя думы,*
*і казачныя, і непрыдуманыя,*
*зумкаюць песню пчолы*
*пра род багаты, вясёлы,*
*пра мяккае белае дрэва,*
*пра цень, і прамень, і напевы.*

# Граматыка з раніцы

У восем раніцы мы завіталі ў Комплекс школ № 2 у Гайнаўцы. Невыпадкова. Урокі беларускай мовы адбываюцца тут з самой раніцы або пад канец працоўнага дня.

У прасторным будынку мы адшукалі навучэнцаў беларускай мовы. Жменька вучняў пад вокам настаўніцы Евы Анішчук практыкавалася ў граматыцы. Як не цікава, практыкаванні цалкам захапілі ўвагу дзяцей. Яны паводзілі сябе так, быццам навакольны свет не існаваў.

Вучні паставілі сабе канкрэтную мэту. Ужо з першых урокаў яны рыхтаваліся да прадметнага конкурсу па беларускай мове.



У гэтым годзе ў школе запанаваў «зрух» па прычыне першакласнікаў. З усіх чатырох першых класаў назбіралася ажно 23 ахвотных вывучаць беларускую мову. Ці здолеюць захаваць пазітыўны настрой да канца школы? З гэтым бывае па-рознаму. Вось у першы клас гімназіі прыйшлі толькі чатыры асобы. На гэта паўплывалі дзве справы. Многія выпускнікі пайшлі вучыцца ў белгімназію. Іншыя пазбягаюць урокаў, бо яны на сёмай або восьмай гадзіне. Як сказалі нашы сябры, тады ў галаву прыходзяць думкі пра адпачынак і яду. А ім здаецца, што трымаюць іх у школе за кару...

Так ці інакш, гэтая жменька працавітых дзяцей, якая з самой раніцы зубрыла граматыку, пакінула незабыўнае ўражанне.

**Зорка, фота Г. Кандрацюк**

## УВАГА КОНКУРС! № 8-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 28 лютага 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Чорная галоўка,**
**чырвоныя крыльцы,**
**на шыйцы і спінцы**
**чорныя крапінкі.**
**Б.... к......**

*** * ***

**Лёгкі, але не падняць.**
**Сцелецца, ды не рагожа...**
**Бераг,**
**лужок**
**стажок —**
**кожны схавацца ў ім можа.**
**Т....**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 4-16: дождж, неба, месяц, зоркі.**

**Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Карнелія Барэчка з Нараўкі, Марлена Лабаноўская, Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага, Міхась Тапалянскі з Нарвы. Віншуем!**



*Навучэнцы беларускай мовы ў Нарве з настаўніцай Нінай Абрамюк*

*Артур Вольскі*

## Хачу служыць...

*Мой брат —*
*хлапец геройскі,*
*і за яго я рад:*
*у беларускім войску*
*пайшоў служыць мой брат.*

*Пра Грунвальд і пра Воршу*
*мне брат мой распавёў.*
*— Хіба, —*
*казаў, —*
*я горшы*
*за продкаў-ваяроў?*

*Учора*
*на парадзе —*
*прыгожы быў парад! —*
*у самым першым радзе*
*ішоў мой родны брат.*

*Я братам ганаруся,*
*бо з гэткімі, як ён,*
*ніколі*
*Беларусі*
*не трапіць у палон.*
*А вам скажу па-свойску:*
*хай час хутчэй бяжыць,*
*бо ў беларускім войску*
*і я*
*хачу служыць.*

**Караліна ПАГАЖЭЛЬСКАЯ**
ПШ у Міхалове

* * *

Аська ўвайшла ў клас. Было гучна, аднакласнікі галасна гаварылі. Моладзь без настаўніка распавядала аб сваіх справах. Дзяўчынка заняла сваё месца і падрыхтавала сшыткі. Ніхто не звярнуў увагі на яе, нават ціхенькі Марак. Ася вельмі адставала ад класа. Яе не цікавіла моднае адзенне, новая музыка, інтэрнэт. Ёй цікавымі былі кніжкі і вучоба. Адзенне Аські было заўсёды простае, без ніякіх аздоб і завушніц да зямлі, як у іншых бывала. Замест вялікага смартфона з мноствам гульняў у яе быў нармальны сотавы тэлефон з кнопкамі. Для дзяўчыны гэта нармальнае, але не для класа...

— Ну, ты, рудая! — крыкнула Элька і падышла дынамічна да Аські. Стоячы ў бяспечнай адлегласці двух метраў, спыталася: — Паедзеш?

Ну, проста яна забылася. Яе клас едзе на экскурсію на мора на тры дні. Дзяўчынцы не па дарозе такія падарожжы, але добра ведала, — усе едуць, было б цалкам сорамна ёй адной не паехаць. Ася праглынула сліну і адчыніла кніжку. Хацела не звяртаць увагі на сяброўку, але тая ўсё ж чакала адказу. Не дачакалася, стукнула абцасамі і крыкнула:

— Паслухайце!

Усе замоўклі і звярнулі ўвагу на прыгожую Элю.

— Наша Аська не паедзе з намі ў падарожжа!

— Ууууууу! — узвыў клас.

Прыгажуні было яшчэ мала. Падышла да Асі і нібыта запытала:

— О! Што мы тут маем? Гары Потэр!? Гэта казка для малечаў.

Усе прысутныя гучна разрагаталіся. Ася, спусціўшы галаву, нічога не сказала.

— Наша мышачка не хоча з намі гаварыць?! — дала пытанне Элька.

— І добра, што не хоча! — адазваўся хтосьці.

Далей не было лепш, увесь дзень Ася сумавала. Яна толькі праходзіла з класа ў клас і як штодзень думала, чаму так тут цяжка жыць.

На другі дзень увесь клас I б стаяў пад будынкам школы. Усіх ашарашыла Аська. Ганарліва, як ніколі, падышла да класа. Усе вучні не верылі! Гэтая самая дзяўчына, якая ўчора ў шэрым трэніровачным касцюме чытала кніжку, сёння была лепшай за класную прыгажуню! Яе доўгія валасы, якія яны заўсёды звязвала ў хвосцік, сёння свабодна плылі па яе спіне і акалялі прыгожы твар.

На носе Аські блішчэлі сонечныя акуляры, у руцэ трымала чамаданчык. Апранутая ў чырвоную сукенку дзяўчына прыцягвала зрок усіх аднакласнікаў.

— Дай, памагу! — сказаў Адам, хлопец Элькі.

— Дзякую! — сказала свабодна Ася.

— Эй! — толькі крыкнула Эля, але ніхто не звяртаў на яе ўвагі. Раптам усе пачалі любіць кніжкі...

Алівія КУЗЬМА
Гімназія ў Нараўцы

## Мой дом

Я жыву на Падляшшы.
Тут мая Айчына.
Я жыву ў вёсцы.
Я яшчэ маладая.
Я люблю маю Айчыну.
Калі тут назаўжды
не застануся,
Думкамі заўжды
буду вяртацца да
Маёй Айчыны,
Маёй хаты.

# Польска-беларуская крыжаванка № 8-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 4:**

Сук, шанс, ровар, колеры, мадам, дуб, Ян, мара. Яда, ромб, кола, веды, Шчара, Рым, яр, цагліна.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Тымэк Петручук, Міхал Тапалянскі, Юля Шкляжэўская** з Нарвы, **Сара Скаўронская** з Беластока, **Паўліна Лянкевіч, Аліцыя Костра** з Шудзялава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Iks / Kawiarnia | Faks | Kosmos | | | | | | | Wyspa |
| | | | | Pośpiech | Łzy / Car | | Kojarzyć załapywać | | Ar | |
| | Ekran | | Ściek / Sport | | | | | | | |
| Expose | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | |
| Ekspe-ryment | | Och! / No | | | | Ił | | | No | |
| | | | | Nic | | | | Bierz | | |
| Gatunek / Nuta | | | | | Lwów | | | | | |

**Новае выданне** Пра новую кнігу прозы Віктара Сазонава „Суседскія былі"

# Чарадзейныя кропелькі свядомага беларуса

Слухаць і чытаць Віктара Сазонава — гэта ў сто разоў цікавей, чым проста з ім выпіць літар віскі. Хаця, калі п'ецца віскі, то падчас распівання, ён раскажа столькі гісторый, што хапіла б на пяць кніжак кшталту „Суседскіх быллей", што летась выйшлі з друку ў Беластоку, дзякуючы Праграмнай Радзе тыднёвіка „Ніва". Наогул, Віктар Сазонаў — чалавек унікальны і вельмі здольны. У ім даўно губляецца талент тэатральнага драматурга, кінасцэнарыста, а таксама вядучага якога-небудзь гумарыстычнага шоу на Беларускім тэлебачанні. Але такіх шоу у Беларусі няма, бо беларусам забараняюць смяяцца, жартаваць і... апладзіраваць. Таму Віктар Сазонаў, чакаючы свайго зорнага часу, у вольную хвіліну пацішу піша „Суседскія былі". Здаецца, ён іх не піша, а проста распавядае, а нехта непрыкметна іх занатоўвае. Дужа гладка і файна ў яго яны атрымліваюцца. Ну ўсё, як па масле: лёгка, таленавіта і смешна!




На Гарадзеншчыне я ведаю дваіх празаікаў, якія пішуць смешныя гумарэскі. Апроч іх ніхто так пісаць не ўмее. Гэта Леанарда Юргілевіч з Дзятлава і Віктар Сазонаў з Гародні. Леанарду Юргілевіч летась прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Некалі з траўня 1957 года пры часопісе „Вожык" выдавалася „Бібліятэка «Вожыка»". Яна адыграла адметную ролю ў развіцці сатырычна-гумарыстычнай плыні нашай літаратуры. У гэтай „Бібліятэцы" выходзілі кнігі Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Янкі Сіпакова і многіх іншых літаратараў. Калі рэдактарам „Вожыка" быў Валянцін Блакіт (1938-2007), а ўзначальваў ён часопіс у 1987-2000 гадах, з друку ў 2000 годзе выйшла кніга гумарэсак „Грэшная душа" Леанарды Юргілевіч. Гумарэскі Леанарды Юргілевіч і Віктара Сазонава чымсьці падобныя, бо аўтары глыбока ведаюць вясковы, местачковы побыт, а талент высвеціць істотнае, важнае, цікавае, смешнае ў псіхалогіі і паводзінах іх герояў. Таму многія іх творы сёння з'яўляюцца жамчужынамі, іх прыемна чытаць, іх ахвотна друкуюць. Праўда, дзяржаўныя выданні ў Беларусі да іх гумару магчыма не дараслі ці проста яго баяцца.

І ў Леанарды Юргілевіч, і ў Віктара Сазонава ў асноўным усе падзеі і прыгоды адбываюцца вакол гарэлкі: альбо іх героі п'яныя, альбо шукаюць, дзе выпіць, альбо пасля пахмелля ці жадаюць моцна пахмяліцца, альбо чакаюць, хто нальле сто грамаў чарадзейных лекаў. Розніць гэтых двух гарадзенскіх гумарыстаў толькі тое, што ў Леанарды Юргілевіч больш дыялогу ў гумарэсках, нейкага чалавечага шкадавання, а ў Віктара Сазонава — менш дыялогаў, больш аўтарскага расказу, і больш рогату і прыгод. Думаю, каб жыў цудоўны рэдактар-гарадзенец Валянцін Блакіт, ён абавязкова ў „Бібліятэцы «Вожыка»" выпусціў бы кнігу Віктара Сазонава, а можа нават і не адну, як некалі Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін ці Павел Місько.

У апавяданнях Віктара Сазонава, якія склалі кніжку, выявіліся рысы, якія сталі характэрнай асаблівасцю яго манеры: вострае пачуццё сучаснасці, актуальнасць тэматыкі, актыўнае ўмяшанне ў грамадскія працэсы, яснасць ідэйнай пазіцыі і, што не менш важна, схільнасць да камедыйна-сатырычнага паказу рэчаіснасці, уменне спалучаць пафас адмаўлення зла з пафасам сцвярджэння дабра. У аснову яго твораў, як правіла, кладуцца грамадска значныя праблемы і калізіі. І што цікава, гэтыя праблемы гучаць так актуальна сёння, як і ўчора і пазаўчора. Найперш, бытавыя праблемы, сямейныя. Але іх так ярка аўтар паказвае, што здаецца, што яны актуальныя ў маштабах сусвету. Напрыклад, героі гумарэскі спяшаліся павіншаваць сваіх жонак з Восьмым сакавіка або Міжнародным жаночым днём і ўручыць ім цюльпаны, што аказалася спазніліся, бо ўжо была раніца 9 сакавіка. Ці прыйшоў чалавек к дантысту, каб вырваць зуб мудрасці. Далі яму наркоз. Аказалася — ён супрацьпаказаны. Стала спыняцца сэрца. Пачалі рабіць штучнае дыханне. Зламалі тры рабрыны. Потым — руку, потым — пярэднія зубы. Але зуб мудрасці застаўся на месцы: цэлы і нават непашкоджаны. Вось як!

Віктар Сазонаў вельмі схільны да гумару і сатыры, ён умее прыкмячаць самае смешнае і недарэчнае ў жыцці і надаваць гэтаму ўласнае мастацкае асэнсаванне. А колькі ў творах аўтара розных параўнанняў. Гэта нават не параўнанні, а вязанкі гумару, бо калі іх сабраць і скласці — то атрымаецца арыгінальная кніга параўнанняў-усмешак. Вось некаторыя з іх: абедзве дзверкі адваліліся ад машыны ў розныя бакі, як гарох ад сцяны; загадкава прыжмурыўшы левае вока, нібы цэліўся з гарматы па вераб'ях; і сталі нюхаць адзін аднаго, як пародзістыя сабакі; кветкі цягаеш з сабой, як сабака костку; і прыбіральня больш прывабна выглядае, чым ты зараз; уздула небараку, як карову, якая цвік праглынула; тапілі энкэвэдыстаў у балоце, як сляпых кацянят і г.д. А гумарэска „Анамальныя з'явы" пачынаецца з адных параўнанняў, якія ў першых сказах ствараюць вобразы герояў: „У Сцяпана Куліка ўжо з раніцы балела галава. Трашчала, як спелы гарбуз, які на гарадзенскім рынку загарэлы азербайджанец, у вялікай, як аэрадром кепцы..." і г.д. Надаюць камедыйнасць многім творам аўтара і розныя праклёны, ну, напрыклад, такія: каб гэтая вёска знікла куды; каб яе пярун знішчыў!; каб яе дажджом у Нёман змыла!; каб яна пад зямлю праваліласся!..

Вельмі любіць аўтар розных хатніх жывёл. Але найбольшы імпэт у яго выклікаюць свінні і парсюкі. Гэтыя жывыя істоты праз многія былі Віктара Сазонава праходзяць як асноўныя героі. Аўтар іх так смачна апісвае, так дасканала, з такім задавальненнем, што часам іх робіць нават разумнейшых за людзей. Ды і смешныя прыгоды ў вёсках вельмі часта адбываюцца з-за свіней і парсюкоў. Героі аднаго з іх нават трапілі на вокладку кнігі. Ступені, грані, адценні сатырычнага і камедыйнага ў творах аўтара дужа разнастайныя. Чытаючы кнігу „Суседскія былі" — смех узнікае не толькі тады, калі ёсць з чаго смяяцца, але нават некаторыя загалоўкі настройваюць чытачоў на нешта смешнае і незвычайнае: „Вясковы Фабержэ", „Выбар жанатага аўтааматара", „Зачараваныя індыкі". „Свінячая гісторыя", „Лямпачка парашчыка".

У прадмове да кнігі Яўген Вапа падкрэсліў, што „героі расказаў Сазонава — гэта людзі, якія па-свойму імкнуцца дагнаць уцякаючыя перад імі мары пра іхняе шчасце". Сапраўды, якімі героі Віктара Сазонава не былі, усе яны жадаюць быць шчаслівымі: адны — больш, іншыя — менш, але шчаслівымі. Так, як і ў рэальным жыцці, мы ўсе хочам быць шчаслівымі. І шчаслівымі хочуць быць героі Віктара Сазонава — Пятро Місюкевіч, Іван Пракопчык, Генадзь Гур'ян, Даніла Супрун, Мікола Міхнюк, Сцяпан Занкавец, Вацюк Ляшкоўскі і дзясяткі іншых герояў. А калі мы ўсе разам жывем на гэтай зямлі — дык будзем смяяцца, проста смяяцца адзін з аднаго, бо на гэта ёсць аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, якія нарадзалі і нараджаюць розных смешных тыпаў. Пра іх і напісаў добрую, і што важна, не сумную кнігу Віктар Сазонаў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Злавіць мары ў Саколі

У Людовым доме ў Саколі Міхалоўскай гміны 30 студзеня прайшла паэтычная вечарына «Злавіць мары» з удзелам беластачанкі Эвы Дануты Ступкевіч і Станіслава Дамбоўскага з Сафіполя Гарадоцкай гміны. Была яшчэ запрошана Барбара Ляховіч, але з-за хваробы не змагла пазнаёміць нас са сваёй творчасцю. Арганізатарам сустрэчы было Таварыства сяброў Саколя са знакамітай сваёй старшынёй Барбарай Пахольскай, якая з адданасцю і ўмеласцю арганізуе мерапрыемствы разам з актыўнымі жыхарамі сялецтва Саколе, што заўсёды дае ў выніку імпрэзы цікавыя і з цёплай сямейнай атмасферай.


Фота Андрэя Каспяровіча

Гасцей і прыбыўшых слухачоў старшыня прывітала напісаным сабою лімерыкам. Як першую сярод тутэйшых майстроў слова і пэндзля прадставіла беластачанку. Эва Данута Ступкевіч нарадзілася ў 1962 г., з'яўляецца выпускніцай майстэрні графікі факультэта мастацкага выхавання Люблінскага ўніверсітэта і дыпламаванай настаўніцай у дзіцячым садку. Многа публікавала ў калектыўных зборніках, выдала кніжку для дзяцей «Kraina tęczą malowana» (адзначыла, што найцяжэй пісаць для дзяцей) і тры паэтычныя зборнікі. Прымала ўдзел у калектыўных і персанальных выставах, з'яўляецца аўтаркай рысункаў, пастэляў, алейных карцін, фатаграфіі і графікі ды ілюстрацый. Як аўтарка малых літаратурных форм і прац для дзяцей супрацоўнічала з кракаўскім выдавецтвам «Імпульс». З'яўляецца сяброўкай Настаўніцкага літаратурнага клуба ў Беластоку і Канфратэрні паэтаў у Кракаве. Ведаюць яе як аўтарку мерапрыемстваў і праграм, рэалізаваных у дзіцячых садках і іншых асяродках асветы і культуры роднага горада. За заслугі на ніве асветы была ўганараванa Медалём нацыянальнай адукацыі. На вечарыне аўтарка чытала свае вершы і паказвала свае фотаздымкі і мастацкія працы. Да Настаўніцкага літаратурнага клуба належыць таксама Станіслаў Дамброўскі з Сафіполя, які сам не з'яўляецца педагогам, але мае фірму, якая ладзіць дахі. Станіслаў Дамброўскі, родам таксама з Міхалоўскай гміны (з Шымак), пару гадоў таму стаў лаўрэатам (І месца за паэзію) у Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы «Дэбют»). Таксама малюе, стварае мэблю, змацаваную драўлянымі цвікамі. Стварае без нейкага праекта. Першы верш напісаў у 1989 годзе, «Раскажы мне, чарэшня». Акрэсліў сябе як «натуршчыка, назіральніка рэнесансу»: «Раптам находзяць на мяне нейкая цікаўнасць, спантанныя думкі». Піша пра людзей і пра «цуды», якія выяўляюцца ў чалавеку. У вершы «Нікіфоры — малако і соль» бачыць таго, каго людзі лічаць «дурным Валодзькам», а гэта разумны, выключны, уражлівы на свой спосаб чалавек, які праз палізанне языком карціны чуе колер. Станіслаў Дамброўскі прачытаў свае вершы «Тры сястрыцы — ад'юстацыі», «Тэктоніка», «Калі яна лагодная», «Барбарыян», «Арыя», «А чаму не дрэва». У сваім Сафіполі аўтар адчувае свабоду, не любіць горада, які для яго штучны і няшчыры. Шкадуе, што яго каханая жонка не зусім разумее яго працы, якія зразумелыя для іншых. Жыхарка Саколя Марыя Грэсь, якая на сустрэчу прыйшла з дачкой, заўважыла, што калі слухаеш вершы ў выкананні аўтара, зразуменне прыходзіць хутчэй, бо аўтар у творах паказвае і сябе. Кожны са слухачоў пасля завяршэння сустрэчы з аўтарамі захапляўся таксама іхнімі мастацкімі працамі, але найбольш жывыя і шчырыя размовы былі пры каве і багата застаўленым стале з салаткамі, бутэрбродамі і іншым смакоцем, якое падрыхтавалі жыхары, згуртаваныя ў Таварыстве сяброў Саколя. Сапраўдная бяседа для душы і цела! Ніхто не пакінуў мерапрыемства, якое выклікала вялікую зацікаўленасць. Сустрэча працягвалася пры музыцы, падабранай для гэтай нагоды Андрэем Каспяровічам, якому падзякавалі за трапны выбар. Падзякам, тостам і супольным песням здавалася, не будзе канца. Імпрэза пры музыцы і танцах завяршылася аж пасля 23 гадзіны!

**Аляксандр АНХІМ**

# „Калі б сяляне былі добрымі людзьмі”
## (напярэдадні паўстання 1863 года)




*30 жніўня 1861 года у адным з фальваркаў побач з маёнткам Анусін Бельскага ўезда адбылася невялікая размова паміж мясцовымі сялянамі і эканомам. Змест яе стаў вядомы ў самой Вільні і выклікаў заклапочанасць улад Расійскай імперыі, заходняя тэрыторыі якой былі ахоплены маніфестацыйным і сялянскім рухам.*

Перадапошні дзень лета. Чацвёра сялян маёнтка Анусін Карніла Кічко, Тодар Кандрацюк, Рыгор Аксенцюк і Антон Салосцік вырашылі трохі адпачыць ад цяжкай працы, калі да іх завітаў Уладзімір Гупэ. Свайго эканома сяляне пабойваліся за запальчывы характар і былі здзіўлены, убачыўшы, што ён прысеў побач і завёў гутарку. Між іншым запытаўся, што за свята святкуецца ў гэты дзень. І ў адказ ад Кічко пачуў: „Аляксандра Неўскага”, да чаго селянін дадаў каментар, што таго за ўніяцтвам не было. Гупэ адчуў у голасе суразмоўцы пэўную незадаволенасць, выкліканую ўспамінамі пра колішнюю „дзедаўскую веру”, ліквідаваную ў 1839 годзе ў выніку далучэння Уніяцкай царквы да Праваслаўнай.

„Час цяпер надышоў ліхі, і калі б сяляне былі добрымі людзьмі і паслухалі б палякаў, то можна было б вярнуць Польшчу”. На пытанне сялян, як гэта можна зрабіць, Гупэ адказаў: „Спачатку патрэбна забіць дзесяць салдат і, заваладаўшы іх зброяй, забіць яшчэ дзесяцёх і так далей, пакуль не будзе знішчана цэлая рота. А тады са зброяй цэлай роты можна разбіць полк, і, працягваючы дзейнічаць, такім чынам можна было б вызваліцца ад рускага ўрада і аднавіць Польшчу”.

Па вяртанні дахаты сяляне распавялі пра размову з эканомам аднавяскоўцам. І паступова чуткі пра заклікі да разні расійскіх салдат распаўсюдзіліся па ваколіцы і дайшлі да селяніна Івана Чырынды з вёскі Слохі-Вялікія і Пятра Гайкалы з вёскі Баратынец-Рускі. У якім кантэксце яны паведамілі тыя звесткі шэраговым салдатам 9-й роты Вялікалуцкага палка, раскватараванага ў маёнтку Анусін, Аляксандру Вяруцкаму і Антону Думанскаму, следчая справа не дазваляе дакладна вызначыць. Але з яе вынікае, што Аляксандр Вяруцкі вырашыў паведаміць пра пачутае свайму вайсковаму кіраўніцтву, разлічваючы на пэўную ўзнагароду. І каб мець доказы, здолеў пераканаць селяніна Аксенцюка дамовіцца са сваімі сябрамі Кандрацюком, Кічко і Салосцікам пацвердзіць данос салдата. Тым больш пагроза арышту Дамоклавым мячом цяпер вісела і над імі. Асабіста ж Аксенцюку, „калі той будзе на следстве казаць праўду” Вяруцкі паабяцаў 15 рублёў срэбрам.

Вестка пра пагрозу падняць выступленне ў невялічкім маёнтку эканомам, які заклікаў сялян забіваць рускіх салдат косамі ды сякерамі, забраць зброю і распаўсюдзіць барацьбу ў падтрымку варшаўскіх выступленняў былі дурным знакам, асабліва на фоне росту сялянскага руху ў Імперыі, дзе 19 лютага 1861 года была абвешчана грабежніцкая аграрная рэформа.

Гупэ быў па паходжанні палякам, ураджэнцам вёскі Радзіміна Плоцкай губерні Царства Польскага, сынам адстаўнога маёра другога пяхотнага палка былога Герцагства Варшаўскага. У 1861 годзе перасяліўся на радзіму жонкі шляхцянкі Юльяны Фёдараўны з Храмінскіх у Бельскі ўезд, дзе ўладкаваўся на працу эканомам у сямятыцкіх маёнтках памешчыка Карла Феншаў.

З пачаткам разбіральніцтва Гупэ заявіў, што яго абвінавацілі беспадстаўна, па намове сялян на чале з Кічко, бо ў Краі „назіраецца ўсплёск адмоўных пачуццяў сялян да памешчыкаў”, і іх злосць таксама падае на тых, хто нясе адказнасць за нагляд за маёмасцю землеўладальнікаў. Справа патрапіла ў ваенныя ведамства Віленскага губернатара, які запатрабаваў неадкладна разабрацца ў тым, ці адпавядаюць чуткі рэчаіснасці.

У пацвярджэнне намовы сялян Гупэ адзначыў, што тыя былі ў мястэчку Сямятычы ў шынку габрэя Зэльмана Разенталя. Менавіта тут яны дамовіліся загубіць эканома, „таму што ён з ліку тых людзей, якія лішнія для іхняга брата”. Пра гэта Гупэ паведаміў валасны пісарчук шляхціч Пётр Бляяўскі, які разам з мяшчанінам Іосіфам Чайкоўскім і супрацоўнікамі маёнтка Анусін кавалём Лейзерам Бляхам і разніком Абрамам Матысовічам сталі сведкамі той размовы. Прычынаю ж такога імкнення было тое, што Гупэ злавіў Кічку на крадзяжы жалеза, хлеба і сена ў панскім маёнтку.

Да высвятлення абставін Гупэ арыштавалі і змясцілі ў Бельскі гарадскі астрог. Віленскі губернатар загадаў перадаць справу ваеннаму суду Вялікалуцкага пяхотнага палка, пры разглядзе якой загадана кіравацца правіламі ваенна-крымінальнага судаводства. Наступствы для Гупэ пагражалі быць вельмі жорсткімі.

Але падчас следства ўзнікла шмат пытанняў у адносінах паказанняў сведкаў з абодвух бакоў. Па-першае, адзін з чатырох сялян — Тодар Кандрацюк — адмовіўся пацвярджаць словы пра падбухторванне эканомам да разні рускіх салдат. Па-другое, сяляне вырашылі паведаміць пра супрацьпраўныя дзеянні Гупэ толькі пасля таго, як гэта ім настойліва рэкамендаваў (больш нават падыходзіць слова — прымусіў) зрабіць салдат Вяруцкі, пры чым Рыгору Аксенцюку ён паабяцаў грошы; па-трэцяе, Вяруцкі спачатку адмаўляў удзел у справе, але падчас вочнай стаўкі прызнаўся ў тым, што абяцаў селяніну Аксенцюку. Адказнасць у парушэнні з салдата зняў асабіста ваенны кіраўнік Бельскага ўезда таму, што той дзейнічаў „па нявуцтве і няведанні адказнасці”, а таксама ўлічваючы, што Вяруцкі першым паведаміў пра словы Гупэ.

Гупэ не ведаў, хто непасрэдна данёс на яго, таму вырашыў засяродзіць сваю ўвагу на асобе селяніна Кічко, якога абвінавачваў у крадзяжах. Але ў гэтай справе нечакана на бок селяніна стаў упраўляючы маёнткам Анусін Дамброўскі, які заявіў, што нязначныя крадзяжы здзяйсняў няпоўнагадовы сын, а не сам Карніла Кічко. І што хлопчык быў злоўлены толькі аднойчы, калі накасіў невялічкую вязанку травы на панскай пашы. Ніколі Кічко нічога ў маёнтку не краў, у тым ліку і хлеба, але ён мае адносіны з дваравою служкай Карнілінаю, якая час ад часу перадавала яму ежу з панскага маёнтка. Прычым дадзеныя абставіны, па заўвазе Дамброўскага, Гупэ высветліў ужо пасля таго, як быў зроблены данос і яму прад'явілі абвінавачанні. Да таго ж упраўляючы падкрэсліў, што эканом вылучаецца жорсткім характарам і часам дазваляе сабе біць сялян. Пра Кічко, Аксенцюка і Салосціка Дамброўскі сказаў толькі добрыя словы, і нават праведзены ператрус не знайшоў у іх нічога супрацьурадавага.

У паказаннях сведкаў з боку Гупэ таксама не было адзінства. Толькі пісарчук Бляяўскі называў прозвішчы ўсіх трох удзельнікаў „змовы”. Бляха з Матысовічам назвалі толькі Кічко, а мяшчанін Чапковіч хоць і сказаў, што чуў падобную размову паміж сялянамі, але не змог сказаць, хто гэта быў дакладна. Да таго ж Чапковіч адзначыў, што ўзгаданая Гупэ „змова” адбывалася ўжо пасля яго арышту. Пяты сведка, уладальнік шынка Разенталь пад прысягаю сказаў, што ўвогуле нічога такога не чуў, і што з узгаданых сялян ведае толькі Кічко, а Аксенцюка і Салосціка ніколі не бачыў ва ўласнай карчме.

На дапамогу Гупэ паспрабаваў прыйсці гуменны Губовіч, які ад непаўнагадовага Мантура даведаўся, як Кічко хваліўся, што пасадзіў эканома, і цяпер чарга за другім панскім паслугачом. Але падчас следства хлопчык адзначыў, што ніколі такога пра Кічко не казаў.

Следства паўстала перад дылемаю вынясення прысуду, паколькі былі відавочныя факты махлярства, якое выкарыстоўваў як Гуппэ, так і яго абвінаваўцы. У выніку ваенны кіраўнік г. Бельска з уездам, камандзір Вялікалуцкага пяхотнага палка палкоўнік Нялідаў, з-за недастатковасці доказаў у адносінах Гупэ лічыў патрэбным выслаць эканома ў гміну Прушын Люблінскай губерні, дзе ён знаходзіўся напярэдадні, пад паліцэйскі нагляд.

Але ажыццяўленне прысуду зацягнулася. Таму 2 кастрычніка 1862 года жонка Гупэ, Юльяна, звярнулася да Гродзенскага губернатара фон Галера з просьбаю вызначыць дакладнасць віны яе мужа, які ўжо 8 месяцаў утрымліваецца за кратамі ў Бельску, у той час як яна разам з пяццю малымі дзецьмі не мае сродкаў на жыццё і галадае.

Праз месяц, 3 лістапада, справа была скончана і Гупэ з сям'ёю выселілі ў Царства Польскае. У гэтым яму нечувана пашанцавала. Будзь гэтая справа разгледжана некалькімі месяцамі пазней, калі на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай у студзені 1863 года ўспыхнула паўстанне, прысуд мог быць непараўнальна больш жорсткім. Карпатлівасць расейскіх следчых у справе доказаў згуляла сваю ролю. Але ўжо праз некалькі месяцаў доказы перасталі гуляць вырашальную ролю.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**



**Кацярына СЯНКЕВІЧ**

*

Новая скура на вачах
новая скура на губах
я не толькі не старая
я нованароджаная

*

чорныя злыя
псеўдасябры
да непабачэння
смутку дэманы!
Я вам задаю дэтокс
хвілінай болю
чысцінёю
выкідаю ў сметнік
вашы мёртвыя словы

*

ворагі ўжо не пахнуць
ворагі ўжо мяне не прыцягваюць
хоць у скуры коцікаў яны апранутыя
яны смярдзяць
я ўцякаю
дыхаць
паветрам

я ўжо ворагаў не запрашаю
я ўжо на ворагаў не дзіўлюся
я ўжо ворагаў не ем
хапае бомбаў
і пісталетаў
да маўчання — вайны — забывання

*

хаця ў крыві
тонуць хлусні
плывуць патокі
біячысціні

*

Чытаеш маю прыгажосць
я ўжо не прыгожая больш
штосьці пашкодзіла маёй скуры.
Маё жыццё патрабуе асэнсавання,
нечаканага.
А ты чакаеш
і нечаканае асэнсаванне перада мной
не ты адкрываеш.
Адкрываюць яго тыя
што чытаюць мае вершы,
а ты чытаеш маю прыгажосць.

*

пастаянна нязлучаныя
не разумеем мяжы
паміж кахання праверанием
а ў каханне павераннем

*

хачу забыць твае вочы
гледзячы табе ў вочы
прыкладаюся да гэтай вучобы
але ж здрадлівае сэрца чуе твае словы
але ж здрадлівае сэрца адчувае боль
таму што ты корміш мяне хлуснёю
таму што хлусня заўсёды баліць
і ўсе зламаныя сэрцы гэта падман
а зайздрасць — адзіная праўда

**Ліст**

сістэма страху перад каханнем
сістэма страху перад некаханнем
гэта не я
я цябе кахаю

# Зімовыя канікулы з крынскай Мэры Попінс

Не хочацца крынскім дзецям вяртацца з зімовых канікул у школу. Не толькі ў школу, але нават да ўласнай хаты. Усяму вінавата дырэктар Крынскага асяродка культуры Альжбета Чарэмха. Дзякуючы яе, дом культуры стаў другім домам для шматлікіх мясцовых дзяцей і моладзі. Праўду кажучы, цягам апошніх двух зімовых тыдняў ва ўласных хатах яны толькі начавалі. Альжбета аказвае дзецям глыбокі давер і яны адплачваюць ёй тым жа самым. Хаця іх там столькі, колькі індусаў у Кальkуце — ва ўсякім узросце, прытым хлопцаў не менш, чым дзяўчат. Узровень самадысцыпліны ў іх сапраўды высокі. Ніякіх праблем з паводзінамі, ніякіх канфліктаў. А бывае і так, што старэйшыя апякуюцца малодшымі, дапамагаючы, між іншым, у правядзенні дзіцячых гульняў ці вядзенні фатаграфічнай дакументацыі.

Спадарыня Эля — крынская Мэры Попінс — жанчына з дзіцячай душой. Яе шматгадовы спрактыкаваны дэвіз: гуляць з дзяцьмі па-дзіцячаму. Адзіная праблема, як сама сцвярджае, што сіл і здароўя ў яе штораз менш.

І так мінаюць чарговыя шалёныя два зімовыя тыдні, напоўненыя мастацкімі, тэатральнымі, спартыўнымі і кулінарнымі заняткамі.

Сапраўдныя цуды павыходзілі з-пад дзіцячых рук пад яе кіраўніцтвам: казачныя куры з пап'е-машэ, цудоўныя падсвечнікі, аздобныя прылады для кухні і пакойчыкаў, каляровыя лялькі.

Некаторыя сталыя ўдзельнікі такіх заняткаў у час летніх мерапрыемстваў на сваіх рукадзельных вырабах зарабляюць цалкам прыстойныя кішэнныя грошы.

Атмасфера заняткаў спрыяе эмацыянальнаму і фізічнаму развіццю дзяцей. Тут не ідзе толькі пра спартыўныя конкурсы, якіх сапраўды шмат, але і пра харчаванне. Капрызнікі пачынаюць есці! На кулінарных майстар-класах разам з валанцёрамі — спадарствам Гражынай і Марыянам Бараноўскімі можна было зварыць і наесціся ўдосталь, між іншым, піцы ці свойскіх макаронаў з мясам. Але, мабыць, кулінарным хітам гэтых канікул стаў кугель. Гэта жыдоўская страва, у склад якой уваходзяць запечаныя ў печы макароны з тварагом, яйкам, цукрам, разынкамі і цынамонам. Дзеткі так рассмакаваліся ў жыдоўскім далікатэсе, што, вярнуўшыся дахаты, варылі такі ж кугель, напаўнялі ім банкі ці каробкі з-пад марозіва і бралі з сабой на чарговыя заняткі. У абедзенны перапынак ніхто не ішоў на абед да мамы — жаль было пакідаць вясёлую кампанію. Асноўнае, што банкі і каробкі капрызнікаў назад вярталіся пустымі.

Кугель гэта страва дзяцінства спадарыні Бараноўскай. На стале паяўляўся ён кожную пятніцу. Спачатку варыла яго бабуля, пасля маці. Рэцэпт кугля бабуля спадарыні Гражыны падгледзела ў крынскіх жыдоў, у якіх працавала. І так страва ў нязмененым варыянце датрывала да нашага часу. Смачна, традыцыйна і сапраўды пакрынску.

Незабыўным аказаўся таксама візіт удзельнікаў зімовых канікул у крынскіх пагранічнікаў. Дзяцей прывітала, між іншым, плютановая Мажэна Шыгаловіч, радавітая крынчанка. Яна таксама выхаванка спадарыні Альжбеты. Мабыць, зімовыя сустрэчы з пагранічнікамі яе дзяцінства дапамаглі ў пазнейшым выбары прафесіі. Выявілася, што крынскія пагранічнікі, як і ўсё астатняе ў Крынках, незвычайныя. Любяць і цікавяцца гісторыяй і прыродай сваёй мясцовасці, а ўсякія праблемы рашаюць адказна і разумна. Яны — сапраўдны гонар мясціны, аб чым можна было пераканацца, паглядзеўшы іх аўтарскія фільмы. Адзін з іх — запіс ваеннага шоу, якое запрэзентавалі ў час мінулагодніх Дзён Крынак. Другі з фільмаў паўстаў у Венгрыі, дзе прыйшлося ім дапамагаць і падтрымліваць Вышаградскую групу падчас эміграцыйнага крызісу. Падтрымку крынскія героі аказвалі таксама ў Славеніі, а неўзабаве паедуць у Македонію.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Героі не паміраюць!

Героі жывуць столькі, колькі іх памятаюць

# http://rip.mfront.net

Канфлікт на Украіне не абмінуў Беларусі, хоць ніякіх ваенных дзеянняў на беларускай тэрыторыі не было. Падзеі ў суседняй краіне адгукнуліся ў сэрцах многіх беларусаў, якія прагнуць свабоды і дэмакратыі ў сваім доме. І калі напрыканцы 2013 года пачаўся Майдан, на ім апынуліся і беларусы, якія дапамагалі ўкраінцам здабываць годнае жыццё. Нашы суродзічы лічылі і дагэтуль лічаць, што іх змаганне за дэмакратычную Украіну паспрыяе дэмакратыі і вяршэнству правоў чалавека ў Беларусі.

Рэдка якое змаганне абыходзіцца без ахвяр. Майдан і Данбас не сталі выключэннем, прычым і там, і там гінулі беларусы. Праўда, на ўсходзе Украіны беларусы гінуць з абодвух бакоў канфлікту і пад рознымі сцягамі. Тыя, хто за Украіну, ваююць пад бел-чырвона-белым, а тыя, хто за прарасійскіх баевікоў — пад дзяржаўным чырвона-зялёным.

У Беларусі, зразумела, ведаюць і пра першых, і пра другіх. Але ўспамінаюць з большага як герояў чамусьці тых, хто пайшоў добраахвотнікам ва ўкраінскія фармаванні. І пацверджаннем гэтага з'яўляецца прысвечаны ім сайт, які не так даўно з'явіўся ў інтэрнэце — **http://rip.mfront.net**.

Даны сайт быў створаны пад эгідай беларускай арганізацыі Малады фронт, якая зарэгістраваная ў Чэхіі, бо ў Беларусі не мае магчымасці гэтага зрабіць. Гэта, дарэчы, заўважна па адрасе сайта. Што ж тычыцца яго зместу, то ён не надта вялікі і распавядае пра трох хлопцаў, якія загінулі на Украіне.

„Героі не паміраюць!" — такая назва сайта-мемарыяла. Яна месціцца ўверсе цэлага выяўлення. З левага боку абрамлены чорнай стужкай бел-чырвона-белы сцяг і надпіс: „Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

З правага боку знаходзіцца невялікая прадмова-распавед пра сайт і тых, каму ён прысвечаны. „Героі жывуць столькі, колькі іх памятаюць. Вы зайшлі на беларускі сайт-мемарыял, прысвечаны нашым пабрацімам, што загінулі цягам «Рэвалюцыі Годнасці» ва Украіне ды вайны на Данбасе. Гісторыя кожнага народу пішацца крывёю яго найлепшых сыноў і дачок. Зробім жа ўсё ад нас залежнае, каб подзвіг гэтых людзей не стаўся марным, а памяць пра іх не сышла ў нябыт. Наша галерэя памяці створаная без якой-кольвек спонсарскай падтрымкі, не прасоўвае партыйных або палітычных «інтарэсаў», не займаецца піярам", — распавядаюць стваральнікі сайта.

На сайце ў цяперашні момант прадстаўлены фотаздымкі і распаведы пра траіх хлопцаў. Гэта Міхась Жызнеўскі, які загінуў на Майдане, а таксама загінуўшыя на Данбасе Алесь Чаркашын і Віталь Целяжэнка. Кожнаму з іх прысвечана па старонцы, дзе месціцца фотаздымкі хлопцаў на Майдане ці ў зоне канфлікту. Здымкаў даволі многа, каб займець уяўленне аб загінуўшых.

Акрамя таго, на старонцы Чаркашына размешчаныпіцьхвілінныводзакліп, прысвечаны хлопцу, дзе дэманструюцца мясціны баёў, разбітыя будынкі і аўтамабілі, украінскія абаронцы, а разам з імі беларускія добраахвотнікі. Кліп суправаджаецца сумнай песняй „Не здавайся", якую напісаў уласна Чаркашын. Прэзентацыя музычнага твора адбылася 8 верасня 2015 года — у Дзень беларускай вайсковай славы, калі ад смерці аўтара мінула роўна дзевяць дзён.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Лідар руху беларускіх эсэраў, слуцкі паўстанец

# 115 гадоў з дня нараджэння Сяргея Бусла

Сяргей Бусел — беларускі нацыянальны дзеяч першай паловы XX стагоддзя, адзін з актыўных удзельнікаў антыбальшавіцкага Слуцкага збройнага чыну. Нарадзіўся ён 19 лютага 1901 г. у вёсцы Сухоўчыцы (цяпер Капыльскі раён) на Міншчыне. Паходзіў з сям'і селяніна Нічыпара Бусла. Вучыўся ў Раманаўскай вышэйшай пачатковай вучэльні, якую скончыў у 1916 г. У жніўні 1917 г. паступіў у Слуцкую агульную земскую беларускую гімназію. Быў адным з лідараў таварыства „Папараць-Кветка", браў актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным руху. З 1918 г. у складзе Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР), уваходзіў у склад яе Слуцкага павятовага камітэта. У час польска-савецкай вайны актыўна ўдзельнічаў у антыпольскім падпольным руху. Сяргей Бусел быў актыўным удзельнікам партыйных з'ездаў БПСР у сакавіку і кастрычніку 1920 г., якія прайшлі ў Смаленску і Мінску.

Бусел быў адным з арганізатараў Беларускага з'езду Случчыны 14-15 лістапада 1920 г. Калі пачаўся Слуцкі збройны чын, па даручэнні старшыні Беларускай Рады Случчыны Уладзіміра Пракулевіча займаўся арганізацыяй і фармаваннем Першай Слуцкай брыгады войскаў БНР у мястэчку Семежава. Пасля падаўлення Слуцкага паўстання Бусел быў у складзе аднаго з аддзелаў Беларускай вайсковай камісіі (БВК), пад прыкрыццём мандата рэвідэнта БВК па культурна-асветных справах праводзіў эсэраўскую прапаганду сярод беларускіх сялян Гарадзеншчыны і жаўнераў беларускага батальёна ў польскай Лодзі.

Пасля скасавання палякамі БВК у 1921 г. пераехаў у Вільню, дзе выконваў даручэнні Замежнага бюро БПСР. Каб пазбегнуць арышту, пераехаў у Коўна, дзе нейкі час працаваў у прадстаўніцтве БНР і Міністэрстве беларускіх спраў. У 1922 г., паводле рэкамендацыі Урада БНР і асабіста Вацлава Ластоўскага, паехаў вучыцца ў Прагу, дзе паступіў у Вышэйшую тэхнічную школу. У час навучання на агранамічным факультэце актыўна ўдзельнічаў у жыцці беларускай эміграцыі: блізка зышоўся з Язэпам Мамонькам, Тамашам Грыбам, Палутай Бадуновай, Міколам Чарнецкім, уваходзіў у Заграннічнае бюро БПСР, працаваў у эсэраўскай студэнцкай арганізацыі „Вольная грамада". У 1929 годзе скончыў навучанне і атрымаў дыплом агранома. Пасля гэтага вярнуўся ў Вільню, дзе імкнуўся ажывіць мясцовую суполку беларускіх эсэраў. Некаторы час супрацоўнічаў з Цэнтрабелсаюзам Антона Луцкевіча і Радаслава Астроўскага, пасля перапыніў кантакты з гэтай групоўкай. Займаў усё больш рэзкую пазіцыю ў дачыненні да палітыкі тагачасных польскіх улад, у прыватнасці да прыхільнікаў палітычнага рэжыму Юзафа Пілсудскага.

Удзельнічаў у працы Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні, супрацоўнічаў з заходнебеларускім часопісам „Золак", які меў сацыялістычны кірунак і які выдавалі Яўген Аніська і Мікалай Чарнецкі (усяго выйшла 7 нумароў гэтага часопіса).

У кастрычніку 1939 г., калі расійская Чырвоная Армія акупавала Заходнюю Беларусь, Сяргей Бусел быў арыштаваны спецыяльнай групай НКВД БССР і вывезены ў Мінск. У лютым 1940 г. яго прыгаварылі да 15 гадоў зняволення ў савецкім канцэнтрацыйным лагеры. Калі і дзе быў забіты ці памёр гэты беларускі дзеяч — невядома. Дакладных біяграфічных звестак пра гэта пакуль няма.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Тэатральныя запусты ў БДК



У панядзелак 8 лютага 2016 года тэатральныя групы пад кіраўніцтвам Альжбеты Фіёнік з Бельскага дома культуры запрэзентавалі праграму тэатральных запустаў. Мерапрыемства сапраўды было вельмі цікавым для гледачоў. Бургамістр горада Бельск-Падляшскі Яраслаў Бароўскі і старшыня Гарадской рады Ігар Лукашук з вялікай увагай глядзелі прадстаўленні як маладых, так і дарослых удзельнікаў. Праграма пачалася дэкламацыяй лаўрэатаў конкурсаў «Паэтычнае трохгалоссе», «Роднае слова» і «Сцэнічнае слова», Конкурсу рэлігійнай паэзіі ў Гайнаўцы, Пасхальнай паэзіі ў Бельску-Падляшскім, павятовых і ваяводскіх элімінацый Агульнапольскага дэкламатарскага конкурсу, міжнароднага конкурсу «Месца на верш» у Ломжы. Выступілі Маглося Скшыняж, Мартына Гезер, Лаўра Анхімюк, Таццяна Сахарчук. У наступнай частцы праграмы наймалодшыя артысты прадставілі спектакль «Два каралеўствы» і таксама дэкламавалі: Ілля Фіёнік, Вераніка Федарук, Максім Фіёнік, Аляксандра Зінкевіч, Павел Кучынскі — стыпендыят маршалка Падляшскага ваяводства на 2016 год. Абрадную праграму «Хрысціны ў Аўгустові року Божого 1813» прадставіў калектыў «Антракт+» і дэкламавалі Рэната Каўнацкая, Караліна Казлоўская і Юстына Марчук. Праграму «Лавачка» на аснове верша Анны Заянчкоўскай прадставіла Група сталага чалавека «Рэтра», якая дзейнічае пры БДК другі год у складзе: Анна Бялецкая, Галіна Савін, Валодзя Весялоўскі і Ян Аніськевіч. Таксама дэкламавалі Марта Зінкевіч, Патрыцыя Буркевіч, Ніна Бялецкая, Ян Аніськевіч, Галіна Савін і Уладзімір Весялоўскі. Старэйшая група «Антракт» паказала прыгожы спектакль «Дзеці і бежанства». Пасля выступленняў бургамістр горада і старшыня Гарадской рады ўручылі дыпломы і падарункі ўсім удзельнікам мерапрыемства з вялікай падзякай. Дырэктар Дома культуры Малгажата Більс-Ярузельская падзякавала інструктару Альжбеце Фіёнік за высокі ўзровень прадстаўленых спектакляў. Сапраўды тое, што мы ўбачылі на сцэне Бельскага дома культуры, можна назваць вялікім мастацтвам, а ўдзельнікаў — акцёрамі, як наймалодшых, так і найстарэйшых. Ад свайго імя жадаю ім далейшых поспехаў не толькі на бельскай сцэне.

**Лідзія МАЛІНОЎСКАЯ**

## Камп'ютары для бібліятэкі

Гарадская бібліятэка ў Кляшчэлях у лістападзе мінулага года падала заяву ў рамках праграмы «Крашэўскі. Камп'ютары для бібліятэк — 2015». Мэтай праграмы было паляпшэнне стандарту грамадскіх бібліятэк шляхам абсталявання сучаснай камп'ютарнай тэхнікай дзеля таго, каб карыстальнікам даць доступ да сістэмы бібліятэчных лічбавых рэсурсаў, а бібліятэкарам — каталагізаваць запасы ў рэжыме анлайн. Заява была адобрана. Дзякуючы таму бібліятэка ўзбагацілася на два камп'ютарныя наборы і прынтар вартыя 7159 зл. Закупка была здзейснена на сродкі Інстытута кніжкі. **(ус)**




## Юбілей 90-годдзя Мацея Канапацкага

29 студзеня гэтага года Мацей Канапацкі адзначыў 90-гадовы юбілей. З гэтай нагоды сябры «Хаткі» павіншавалі Юбіляра, перш за ўсё жадалі яму добрага здароўя.




Мацей Канапацкі з сябрамі «Хаткі». Стяць злева: Аляксандр Юзэфовіч, Цэліна Глагоўская, Галена Глагоўская, Анна Сабэцкая, Міхась Куптэль, Чэслаў Мекін, Анна Мекін, Уладыслаў Страшэвіч

Пра жыццё Юбіляра, яго сувязь з беларусамі і агульна кажучы з беларускасцю можна пісаць многа, а больш змястоўна можна даведацца з кніжкі «Увесь свет Мацея Канапацкага», выдадзенай Праграмнай радай «Нівы» ў 2011 годзе. На пытанне Лены Глагоўскай («Ніўскі следапыт — інтэрв'ю Лены Глагоўскай з Мацеем Канапацкім — колішнім журналістам «Нівы» — «Ніва» № 39, 25.09.1994): «Раскажыце, калі ласка, як гэта сталася, што вы, віленскі татарын, апынуліся ў пэўны момант у цэнтры беларускага руху ў Польшчы?» Мацей Канапацкі адказаў: «Мая нейкая цяга да беларускасці мае свае крыніцы яшчэ ў дзяцінстве і юнацтве, якія прайшлі ў Вільні». Прыгадаю, што Мацей Канапацкі вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі.

Зараз Мацей Канапацкі жыве ў Доме для састарэлых у Сопаце, дзе мае поўную апеку як інвалід. Мае надзею, чаго і мы яму жадаем, што яшчэ вернецца ў сваю кватэру, а перш за ўсё на свабоду, да жыцця як даўней.

**Міхась КУПТЭЛЬ**


**З цыкла: Размовы аб...**

**Трагедыі 1946 года: Залешаны, Зані, Шпакі і...**

**расказвае журналістка беларускага радыё «Рацыя»**

**ВАЛЯНЦІНА ЛАЕЎСКАЯ**

**аўтарка рэпартажу „Я БАЧУ ІХ”**

**19.02.2016 г. (пятніца), гадз. 17⁰⁰**

**Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка”**

**вул. Т. Саланевіч, 2 у Гайнаўцы**

**ЗАПРАШАЕМ**


## 21.02 — 27.02

**(22.03. — 20.04.)** Удачы ў каханні — гарантаваныя аж да канца месяца. Прымервайся да новага праекта. Асабліва не налягай на спорт і практыкаванні. 26-27.02. вельмі пільнуйся, каб не атрымаць кантузіі.

**(21.04. — 21.05.)** Увесь час будзеш баявіты і сустракаць таксама агрэсіўных асоб, ці то сваячку, ці то суседа — можа не будзе атакаваць у твар, але душу раз'есць. Нептун падмацоўвае творчую ўяву. Ты напрацаваўся на сваю прафесійную пазіцыю — і цяпер кар'ера можа хутка прыспешыць! Не расклейвайся, не аналізуй свайго асабліва эмацыйнага жыцця.

**(22.05. — 22.06.)** Дасі рады выклікам лёсу! Твая ззяючая інтэлігентнасць падкажа, што кепскі час найлепш перачакаць, захаваць спакой. Варта мадыфікаваць ранейшыя планы. Найлепш адчакаць сур'ёзную размову. Прафесійныя справы ўкладваюцца няблага, багатае кампанейскае жыццё, часам нават лішне цябе турбуючае.

**(23.06. — 23.07.)** 22.02. можаш дасведчыць незвычайных і нават містычных перажыванняў! 26.02. будзеш настаўлены баявіта і схочаш вырашыць штосьці важнае. Творчы настрой у мастакоў. Важнае на працы, можаш знайсці новую.

**(24.07. — 23.08.)** Псіхічная трываласць і фізічная мацата. Справішся і з аварыяй дома, і праявамі СДУГ (сіндром дэфіцыту ўвагі і гіперактыўнасці) у дзяцей. Пацяплеюць адносіны з кімсьці з сямейнікаў. Вельмі пільнуйся на дарозе. 27.02. спадзявайся гарачых любоўных прызнанняў!

**(24.08. — 23.09.)** Крыху будзе здавацца, што зоркі табе скупяць жыццёвых прыемнасцей або не спяшаюцца з гэтым. Але дачакаешся! Каханне таксама можа прытрапіцца, але і парванне сувязей. Калі шэф папросіць цябе заступіць яго, справішся прыпяваючы, але паявяцца зайздроснікі. У сям'і будзе праблема для абмеркавання.

**(24.09. — 23.10.)** Тое, што адбываецца цяпер, будзе напоўнена марамі аб будучыні і вяртаннямі да далёкага мінулага. Пахавай ілюзіі. Зоркі табе спрыяюць, падтрымліваюць. А калі нават Уран патрасе, усё ж не пакрыўдзіць. Калі патрабуеш больш месца для жыцця, зоймуць цябе планы пабудовы дома, куплі ўчастка, замены кватэры... На працы будзь сумленным і пунктуальным, зможаш знайсці таксама штосьці лепшае да работы. Зафундуй сабе метамарфозу.

**(24.10. — 22.11.)** Зоркі табе спрыяюць! Не спрачайся дома, бо можа закончыцца гэта вялікім скандалам. Смела рэалізуй свае задумы. Рабі важнае для цябе. Прыцягнеш людзей да сябе, таксама будучых супольнікаў. Твая асоба прыцягне і выкліча зацікаўленасць. Праца, якую шукаеш, сама трапіць у твае рукі. Перашкоды ў прафесіі знікнуць, а твае праекты акажуцца геніяльнымі. Можаш нават пайсці на сваё!

**(23.11. — 22.12.)** Няма падстаў для наракання. Твой рацыянальны розум падказвае табе найлепшыя вырашэнні. Калі нойдзе на цябе сумнаваты настрой, пашукай кагосьці, з кім паразмаўляеш. Схочаш, каб табою захапляліся — і будзеш! Але твае дасягненні некаторыя будуць старацца паменшыць, напляткаваць на цябе. Пільнуйся, каб твае таямніцы не рассакрэціліся. Не разлічвай на тое, што не расплятуць пра тое, што ты рабіў на выязной імпрэзе.

**(23.12. — 20.01.)** Чакае цябе шмат падзей і мілых здзіўленняў. Чакай радаснай весткі 22.02. аб павелічэнні сям'і. Не цікавішся рознымі варожбамі, але штосьці ў гэтым зменіцца, схіліць да зацікаўленасці іншымі абшарамі жыцця. Калі ты мастак, спадзявайся атракцыёнаў. Не пазбывайся ашчаднасцей, неўзабаве прыдадуцца.

**(21.01. — 19.02.)** 23.02. магчымыя напады зайздрасці партнёра. Сонца і зоркі падмацоўваюць цябе і адабраюць твае рашэнні і выбары. Арыгінальныя задумы. Марс змабілізуе цябе да хуткага дзеяння і моцна папхне ўперад. Спадзявайся трапных падказак інтуіцыі. Гарачэй у пачуццях, можа паявіцца таксама новае каханне. Неўзабаве прыйдуць грошы.

**(20.02. — 21.03.)** З 22.02. удалыя рандэву. Але і духоўныя перажыванні іншага віду. Над парай са складанымі пачуццямі збіраюцца цёмныя хмары — Сатурн не дасць цябе больш крыўдзіць і зневажаць. Развівай свой талент, трэніруй, не зневажайся. І не давярай іншым — хітруны схочуць цябе маніпуляваць. Зоркі падмацуюць цябе — будуць цікавыя заняткі, кантакты з файнымі людзьмі, можа сыпануцца грошы...

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

1. мера даўжыні паміж расцягнутымі крайнімі пальцамі рукі, 2. антонім бедняка, 3. пачвара, страшыдла, 4. крывуля над хамутом, 5. пякельны монстр, 6. між каралём і валетам, 7. без яго на скрыпцы не зайграеш, 8. вакальны ансамбль, 9. адтуліна для зброі ў борце судна або самалёта, 10. паходны рух войск, 11. аўстрыйская залатоўка да ўвядзення еўра, 12. цячэ цераз Хоцімск, 13. знаток чалавечага душэўнага складу.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | | | 3 | | | 4 | | | | |
| | | | | | | | | | | | | |
| | | 5 | | | | | | | 6 | | | |
| | 7 | | | 8 | 9 | | | | | 10 | | |
| | | | 11 | | | | | | | 12 | | 13 |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — яўрэйская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 5 нумара**

Ас, Віды, гад, прызыў, цаца, чуццё.

Рашэнне: **Вучыцца заўсёды прыгадзіцца**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

## Размова з Раманам МАЛІНОЎСКІМ, аўтарам макета колішняга царскага палаца ў Белавежы.

# Царскі палац





Белавежская пушча была месцам палявання на буйную звярыну бадай з незапамятнага часу. Асабліва палюбілі гэтую мясцовасць чарговыя манархі, спярша вялікія князі літоўскія, пасля польскія каралі, пасля расійскія імператары, польскія прэзідэнты, савецкія генсекі... Для такіх знакамітых гасцей будаваліся адмысловыя рэзідэнцыі. Ужо ў эпоху роду Ягелонаў у Белавежы быў палац, дзе спыняліся каралі. У 1658 годзе ў час маскоўскага нашэсця палац згарэў. Чарговы каралеўскі палац, адбудаваны ў наступным стагоддзі, згарэў у час Лістападаўскага паўстання ў 1831 годзе. У 1889 годзе цар Аляксандр III загадаў пабудаваць чарговы палац, царскі, які быў узведзены цягам чарговых пяці гадоў. Вікіпедыя: „Дворец стал излюбленным местом охоты и отдыха царствующей семьи, своеобразным уголком цивилизации посреди пущанского леса, а сама Беловежа превратилась в осеннюю резиденцию российского императора. Кирпичное двухэтажное здание дворца, дополненное подвальными помещениями и мансардами, было построено в духе средневекового замка, имело две высокие башни с круглыми остроконечными крышами на западном и восточном углах. В отделке и меблировке дворца представлены были все породы деревьев, которыми изобилует пуща: сосна, ель, дуб, граб, береза, клен, ольха и осина. Все паркеты были уложены по тонкому слою сухого песка, чтобы уменьшить гулкость шагов. Каждая комната, в том числе для свиты, имела свою отделку, которая не повторялась в других комнатах. В одной из свитских комнат стены были оклеены старыми почтовыми марками со всего мира. Другая комната была отделана, вплоть до мебели, игральными картами...”. У палове ліпеня 1944 года ў ходзе ваенных дзеянняў палац часткова згарэў. У 1961 годзе рэшткі царскага палаца былі знесены, а на іх месцы пабудавана гасцініца для іншых, чым блакітнакроўныя, гасцей.

***— З чаго пачалося Ваша мадэляванне? Калі зацікавіліся? Што было на пачатак? Можа гатовыя мадэлі спярша склейвалі? Ці Вы іншым шляхам дайшлі да такога высокага майстэрства?..***

— Да гэтага ўсяго прымусіла мяне хвароба. Пасля шырокага інфаркту — не хапіла дваццаці мінут, каб спынілася сэрца. І яшчэ лёгкі інсульт. Я быў амаль спаралізаваны. Я ў клініцы ляжаў амаль два тыдні пад апаратурай і як мяне прывезлі дахаты, я быў амаль безуладны.

***— Даўно гэта было?***

— У 2008 годзе, у верасні. Як мяне прывезлі, то пакойная мама мусіла мне дапамагаць. Загадала мне паддацца рэабілітацыі. Яна спярша пінцэтаў ад лекара прынесла і я тыя пінцэты ў руках стараўся авалодаць. Гэтыя практыкаванні з пінцэтамі доўжыліся можа з паўгода. І я ўжо мог тыя пінцэты трымаць у руках. Мама тады кажа: „То ты вазьмі з запалкамі цяпер практыкуйся”. Вазьму запалку, а мне рука дрыжыць. Мама кажа: „Набірай паветра і стрымлівай дыханне”. І я так пакрысе пачаў прыходзіць да сябе. Першыя домікі пачаліся з запалак. Як ужо стаў хадзіць, зайшоў у краму і пабачыў там скрынкі з-пад апельсінаў; думаю: пакамбіную нешта з тымі скрынкамі. І я з тых ліштваў, з якіх сплецены згаданыя скрынкі, пачаў рабіць домікі; яны былі тут раней, у Галерэі, цяпер яны ў Белмузеі ў Гайнаўцы. Так пачалося і я акрыяў, толькі яшчэ з моваю ў мяне цяжка. І іншыя хваробы прычапіліся, у тым ліку дыябет. Але прымаю лякарствы і так трымаюся. Скончыў я гэты царскі палац і распачаў нашу царкву.

***— А я думаў, што палац з’яўляецца Вашым апошнім, найбольш спелым дасягненнем, што менш складаныя мадэлі Вы рабілі раней.***

— Раней то я выканаў мадэль нараўчанскага касцёла, які быў згарэў 5 ліпеня 1965 года, два дні перад праваслаўным Янам. У нашай пані Ядзі Карпюк, старшыні пенсіянерскай арганізацыі, сын, Пётр, які прыходзіў да мяне і прыглядаўся як я працую. І калі ўжо канчаў мадэль касцёла, то ён падкінуў мне думку, каб так зрабіць мадэль белавежскага палаца. Я маўчу, не адзываюся. А ён настойвае: „То як, зробіш ці не — гэта ж прыгожы будынак. Але калі ты маўчыш, значыць ты яго не зробіш”. Калі ён так сказаў, то мяне панясло. І так пачалося. Гэтая праца доўжылася два гады і месяц, роўны месяц. Калі б я добра сябе адчуваў, то я можа з паўгода раней яго пабудаваў бы. У міжчасе пачаў нашу царкву — ужо маю некаторыя сцэны зроблены, фундамент, уваход у царкву, усходкі. Хачу яе закончыць — калі ўдасца — на 7 ліпеня, на прыхадское свята Яна.

***— Ранейшы касцёл у Нараўцы быў драўляны, палац быў мураваны, але Вы яго так прыгожа абрабілі, што выглядае быццам ашаляваны быў. Вы згадвалі пра запалкі, але палац хіба не з запалак?..***

— Не, палац са згаданых скрынак. Мы ў краме купляем апельсіны, а яны тыя скрынкі выкідаюць. То я зайду ў краму і прашу прадавачак, каб яны мне тыя прыгажэйшыя скрынкі адкладалі. І калі я заходзіў у краму, то яны мяне інфармавалі: „Ужо ёсць скрынкі, пане Рамане”. То я тады вазьму тыя скрынкі, распляту іх і ўжо маю матэрыял для работы. На палац пайшло шмат такіх скрынак, можа са сто. І можа сабе ўявіць, колькі на дах пайшло лусок ад шышак — а пайшло іх звыш дваццаці тысяч. А на адной лусцы трэба выканаць пяць працэдур. Гэта лускі яловыя, яны зараз тоненькія. Але калі я такую адрэжу ад шышкі, то яна не тоненькая, яна мае зверху горб. То трэба той горб спілаваць, узяць ножнічкі і роўненька закругліць, бо яны ў прынцыпе няроўныя. Я іх клаў у нафту — пару дзён паляжыць у нафце, пасля шматкаю чысціў лускі, тады наждачнай паперай іх ад споду праціраў, бо на іх такая там наслойка, што нават клей не прыстае, і калі працэрці, то тады толькі возьме клей. Зраблю іх некалькі партый, тады бяру іх між дошкі і заціскаю ў ціскі на некалькі прынамсі гадзін, каб яны не адходзілі. А далей наступныя партыі і так памаленьку, памаленьку, каб выпрасталіся. Тады пратравай (бэйцай) зацягаю, пазней наношу на іх такі сучасны экалагічны лак. Гэта дае эстэтыку і бляск.

***— Каб забрацца за такую работу трэба мець тую візію, той план цэлай канструкцыі ў галаве. Я ў захапленні ад таго, што Вы так хутка гэтую візію прывялі ў рэалізацыю. Вы заняліся гэтай справай усяго шэсць гадоў таму, а ўжо такая вытанчаная аграмадная будоўля атрымалася ў Вас. То ж тут пайшло мноства работы, бо ж не толькі трэба гэта ўсё строга трымаць у галаве, але і літаральна напрацавацца.***

— Я раней не меў уяўлення пра гэты царскі палац, але мне гайнаўскі віцэ-стараста падарыў альбом. Да таго часу былі ў мяне здымкі палаца з інтэрнэту аддрукаваныя на паперы фармату А-4. Гэта былі архіўныя здымкі, але на іх не ўсё было дакладна бачнае. Я ўжо рабіў першы паверх, калі атрымаў той альбом. У той кнізе ёсць ужо дэталі: дзве аўтаркі, расіянка і немка знайшлі ў маскоўскіх архівах дакладныя параметры белавежскага царскага палаца. Яны знайшлі ў нас спонсараў ды выдалі ў 2010 годзе адмысловы той альбом. І ў тым альбоме я ўбачыў усе архітэктурныя дэталі палаца. Прыглядаўся я тым дэталям з лупай у руцэ. Мая мадэль палаца была спланавана ў маштабе 1:22. Такая ў мяне была фанерная пліта. Калі б узяў маштаб 1:25, то палац атрымаўся б малаваты, а калі б узяў маштаб 1:20, то не змясцілася б на ім найбліжэйшае наваколле палаца, напрыклад пад’езды. І так я меркаваў, меркаваў і атрымаўся ў мяне аптымальны маштаб 1:22. А вышыня палаца, ад яго найвышэйшага пункта да зямлі мела 11 метраў, а ў маёй мадэлі паводле прынятага маштабу атрымалася няцэлых 52 сантыметры. І я ўвесь час трымаўся прынятага маштабу. І ўсё рабіў са штангенінструментам (suwmiarka) у руках.

***— А колькі гадзін у суткі займала Вам гэтая работа?***

— Божа мой каханы! Аж страх гаварыць: сама менш 16-18 гадзін.

***— То Вы адно спалі і рабілі, спалі і рабілі?..***

— Так уцягнуўся ў тую работу, што спаць не мог. Будзіўся ў дзве гадзіны ночы, сядаў і рабіў. То крыху перакусіў, прыняў лякарствы і зноў. Лягаў спаць у адзінаццаць ночы. Можаце ўявіць, колькі ў мяне было сну. Але добра сябе адчуваў.

***— Вы зрабілі макет ранейшага нараўчанскага касцёла, белавежскага палаца, цяпер у Вас на рабочым стале нараўчанская царква. А можа ў Вашых думках ужо далейшыя планы?***

— Планы ёсць, бо сталі званіць мне з цэлай Польшчы. Напрыклад быў тэлефон з Кракава, каб выканаць нейкую тамашнюю каплічку.

***— Пра гэты палац вядома ў нас, на Беласточчыне. А ў больш шырокім маштабе вядомая гэтая Ваша праца? Вядомая яна ў іншых рэгіёнах Польшчы?***

— Вядомая, і то не толькі ў Польшчы. Ведаюць пра яе ў Швейцарыі, Італіі, Маскве.

***— А адкуль яны даведаліся пра Ваш палац?***

— Прыязджалі ў Нараўку экскурсіі са Швейцарыі. А даведаліся яны ад Касі Бяляўскай. Яна працуе ў Гмінным асяродку культуры. Сюды сталі заглядаць розныя людзі. Напрыклад, архітэктары з Беластока аглядалі гэты палац, трымаючы штангенінструменты і здымкі палаца ў руках. І адзін такі пытаецца: „А якую ты школу скончыў?”. То я адказваю, што акадэмію прыгожых мастацтваў; мне ўжо абрыдлі такія пытанні. То ён пытае: „А дзе?”. А я адказваю: „На Міцкевіча”. А ён дзівуецца: „Дзе на Міцкевіча? У Беластоку на Міцкевіча няма акадэміі прыгожых мастацтваў”. А я адказваю: „А ідзем у заклад? Я вас завяду і пакажу тую акадэмію. Ведаеце дзе царква і дзе быў у Нараўцы стары банк? Дзе Галерэя Тамары Саланевіч? Там мая акадэмія прыгожых мастацтваў”.

***— Вам можа і турбота, што да Вас такім навалам валіць усялякі народ?***

— Не, яны мяне падбадзёрваюць, я інакш сябе адчуваю, мне гэта дадае радасці, што я магу нешта выдумаць і зрабіць.

***— Параметры для макета белавежскага палаца Вы ўзялі са здымкаў і з кнігі. А адкуль бралі Вы параметры нараўчанскага касцёла?***

— Са здымкаў. Я мог пазнаёміцца з архіўнымі здымкамі касцёла, каля якога стаяць яшчэ царскія салдаты. Да якога ж ксёндз паказаў мне свае касцельныя архівы са здымкамі і планамі вітражоў. І я зрабіў так, як было ў сапраўднасці.

***— Дзякую Вам за Вашу працу ў карысць мацавання памяці пра нашы мясцовыя гістарычныя аб’екты. І жадаю Вам усяго добрага, а галоўным чынам — моцнага здароўя.***

**Гутарыў Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

ISSN 0546-1960